# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 35 (2229) 29 жніўня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.


## БЕСПРАЦОЎЯ НЕ БАІМСЯ!

Наўрад ці нехта рызыкне адказаць на гэтае пытанне катэгарычным "так", але тое, што беларускія спецыялісты, якія займаюцца гэтай праблемай, не чакаюць у рэспубліцы надта высокіх тэмпаў беспрацоўя, несумненна.

У гэтым пераканаҥы, у прыватнасці, старшыня Дзяржкамітэта БССР па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва Георгій Бадзей, які ў інтэрв'ю газеце "Белорусский рынок" паведаміў аб наяўнасці ў рэспубліцы 80 тысяч вакантных рабочых месцаў. У асноўным, праўда, гэта вакансіі для людзей, занятых малакваліфікаванай, сельскагаспадарчай працай, а таксама для будаўнічых рабочых, але "рынак месцаў" тым не менш існуе.

Што ж тычыцца новых рабочых месцаў, то яны будуць ствараць у асноўным для тых, хто не ў стане як роўныя канкурыраваць у пошуках работы, — для інвалідаў, жанчын з дзецьмі. А ўсе астатнія павінны "прабівацца" самі.

Служба занятасці, зрэшты, паклапоціцца аб дапамозе ў прафесійнай перападрыхтоўцы: будзе аплачваць абучэнне і выплачваць стыпендыі. Цэнтры для перавучвання адкрыюцца ва ўсіх абласцях рэспублікі. Частка беспрацоўных атрымае накіраванні на вучобу, якая будзе арганізавана па шырагу прафесій у дзеючых прафтэхвучылішчах: прафесіі выбіраюцца ў адпаведнасці з патрэбамі данай мясцовасці.

Плануецца таксама стварэнне сумесных прадпрыемстваў з замежнымі фірмамі, якія займаюцца прафесійнай падрыхтоўкай і абучэннем. Напрыклад, з дапамогай калег з Германіі хутка адкрыецца цэнтр для перападрыхтоўкі інжынерна-тэхнічных і кіруючых работнікаў, прычым, магчыма, у праграму ўвойдуць і стажыроўкі ў Германіі.

Аказаць канкрэтную дапамогу Беларусі згодна і Міжнародная арганізацыя працы (МАП), якая прыме ўдзел у стварэнні і аснашчэнні рэспубліканскіх службаў занятасці. Такія службы, магчыма, пачнуць дзейнічаць у Мінску, Бабруйску і Магілёве ўжо ў гэтым годзе.

Інфармацыя Георгія Бадзея, безумоўна, абнадзейвае. Аднак большасць тых, каму пагражае страта працы, настроены далёка не аптымістычна, тым больш, што страх беспрацоўя — пачуццё зусім новае, не зведанае для тых, каму "права на працу" і да гэтага часу гарантавана канстытуцыяй.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, Наталля БУЛДЫК.**




**Што адбылося ў Савецкім Саюзе ў ноч з 18 на 19 жніўня і чым скончылася праз тры дні, нагадваць не трэба: пра гэта ведае ўвесь свет. Спроба дзяржаўнага перавароту мела куды больш жудасны эфект, чым чарнобыльская катастрофа. Нягледзячы на папуліскія абяцанні Дзяржаўнага камітэта па надзвычайнаму становішчу ў СССР накарміць дасыта і апрануць народ, даць прыстойнае жыллё, людзі ў сваёй пераважнай большасці не далі яму веры. Народ паўстаў і не дапусціў, каб былі знішчаны заваёвы перабудовы.**

**НА ЗДЫМКУ: выступленне жыхароў Мінска супраць антыканстытуцыйнага перавароту.**

**(Чытайце заметкі каментатара "Трывожна..." на стар. 3).**

**НА СУЧАСНЫМ складаным этапе гісторыі Беларусі, калі вызначаецца накірунак яе будучага развіцця і стаіць задача адраджэння нацыянальнай культуры, узрастае цікавасць да вытокаў беларускага народа, робяцца спробы знайсці адказ на найважнейшыя пытанні нацыянальнай гісторыі, у тым ліку і па праблеме ўзнікнення Белай Русі, паходжання яе народа.**

**Савецкімі і зарубежнымі вучонымі напісаны сур'ёзныя навуковыя працы па данай праблеме, выпрацаваны пэўныя канцэпцыі. Частка з іх носіць аднабаковы і спрэчны характар, мае недастатковую аргументацыю. Многія факты старажытнай гісторыі да нядаўняга часу замоўчваліся, каштоўнейшыя першакрыніцы хаваліся ў спецфондах і таму былі недаступнымі для вучоных.**

**Аўтар новай канцэпцыі аб паходжанні Беларусі і беларусаў — гісторык-этнограф Міхась Піліпенка — зацікавіўся гэтай праблемай даўно і даследуе яе болей за 15 год. Ён усебакова вывучыў айчынныя і зарубежныя публікацыі, разнастайныя першакрыніцы (старажытныя летапісы, даныя археалогіі, мовазнаўства, усходнеславянскай этнаграфіі і фалькларыстыкі, антрапалогіі, эканамічнай і палітычнай гісторыі ў сярэдневяковую эпоху). У сваіх даследаваннях вучоны ўлічвае ролю многіх фактараў — эканамічных, палітычных, гістарычных, асаблівую ўвагу звяртае на ролю дыфузіі ў этнічных працэсах, перагрупоўку кампанентаў культуры і мовы. Пастаянна супастаўляючы даныя разнастайных крыніц, ён прыходзіць да новых высноў, якія ўяўляюць значную цікавасць для навукі.**

**У новай навуковай канцэпцыі аргументуецца палажэнне пра змешанае (славяна-балцкае) паходжанне дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў і высокі ўзровень іх развіцця. Гэтыя агульнасці характарызуюцца не як "саюзы плямёнаў", а як протанароднасці. Аўтар паказвае, як фарміравалася агульнаўсходнеславянская этнічная тэрыторыя Русь, да якой, па думцы вучонага, некалькі стагоддзяў адносіўся і наш край. Па-новаму тлумачыцца паходжанне і значэнне такіх назваў, як Белая Русь, Чорная Русь, Літва, Палессе. Аўтар лічыць, што працэс утварэння Беларусі, беларускага народа быў куды больш складаным, чым уяўлялася да гэтага часу.**

**Рэдакцыя газеты "Голас Радзімы", якая друкуе шмат матэрыялаў па гэтай тэматыцы, прадстаўляе разнастайныя навуковыя погляды, гіпотэзы і даследаванні, прапанавала выступіць з артыкулам і аўтару новай кнігі "Узнікненне Беларусі" М. ПІЛІПЕНКУ. Спадзяёмся, што гэта публікацыя будзе цікавай для чытачоў. Чакаем вашых водгукаў.**

# ЯК СПЫТАЮЦЦА НАС...

## (ГІСТАРЫЧНЫЯ НАТАТКІ ПРА ЎЗНІКНЕННЕ БЕЛАРУСІ)

У наш час, у канцы цяперашняга стагоддзя, нам, беларусам, варта прыгадаць верш Я. Купалы, які ён напісаў у пачатку гэтага стагоддзя (1911). У вершы паэт сказаў:

**"Прыйдуць людзі з Усходу,**
**Прыйдуць з Захаду людзі**
**І спытаюцца нас:**
**"Скуль, якога вы роду?**
**Дзе зямля ваша будзе?**
**Дзе айчызна ў вас?"**
**Мы ля плоту, пад плотам**
**Паглядзім, пашукаем,**
**Які даць тут адказ,**
**І адкажам: Э, што там...**
**Мусіць бабскім звычаем**
**Збегла упрочкі на час".**

Прочкамі называецца звычай, паводле якога жонка, пасварыўшыся з мужам, на нейкі тэрмін пакідала сваю хату і жыла ўвесь гэты час у сваякоў, суседзяў, а потым, калі абурэнне і гнеў праходзілі, вярталася дамоў. Цяпер, амаль праз сто гадоў пасля таго, як быў напісаны гэты знакаміты верш, можна сказаць, што час прочак скончыўся, і мы, беларусы, павінны адказаць на пытанні: "Скуль, якога мы роду?", "Дзе зямля наша будзе?", "Дзе айчызна ў нас?", "Калі беларусы, як народ, сфарміраваліся?", "Як, якім чынам?", "Пад уплывам якіх прычын, фактараў?" Каб правільна падысці да гэтых няпростых пытанняў, неабходна спачатку зазірнуць у далёкую мінуўшчыну, даведацца, якія людзі жылі тады на тэрыторыі нашага краю, на якіх мовах яны размаўлялі, якую культуру, які знешні выгляд мелі.

### СТАРАЖЫТНАЕ НАСЕЛЬНІЦТВА НАШАГА КРАЮ

На тэрыторыі нашага краю чалавек упершыню з'явіўся ў канцы сярэдняга старажытнакаменнага веку, прыкладна звыш

**(Працяг на 6-й стар.).**

*У ПРЭЗІДЫУМЕ САВЕТА ФПБ*

## ПЕРАМОГА ІДЭАЛАЎ ДЭМАКРАТЫІ

Прэзідыум Савета ФПБ адзначыў, што прагрэсіўныя сілы краіны атрымалі важную перамогу, сарваўшы спробу антыдзяржаўнага перавароту ў СССР. Перамаглі развага, ідэалы дэмакрытыі, канстытуцыйная законнасць. Менавіта да гэтага Прэзідыум Савета ФПБ заклікаў у сваёй заяве ад 20 жніўня гэтага года.

Прэзідыум выказаў спачуванне родным і блізкім загінуўшых і пацярпеўшых у час трагічных падзей у Маскве.

Адзначана неабходнасць неадкладнага расследавання ўсіх акалічнасцей, звязаных з арганізацыяй перавароту, шырокага інфармавання грамадскасці па гэтых пытаннях.

На пасяджэнні падкрэслена, што з боку законных органаў улады павінны быць прыняты рашучыя дзеянні па стабілізацыі сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне, умацаванню законнасці і правапарадку. На парадку дня — падпісанне ўдакладненага Саюзнага дагавора, рэалізацыя скарэкціраваных і ўзгодненых з рэспублікамі антыкрызісных мер.

Прэзідыум Савета ФПБ пацвердзіў сваю пазіцыю аб неабходнасці разгляду гэтых праблем на надзвычайнай сесіі Вярхоўнага Савета СССР і З'ездзе народных дэпутатаў СССР.

*ПРОЦІСТАЯННЕ*

## СУМЛЕННЕ НЕ МІРЫЛАСЯ

Тры змрочныя для краіны дні плошча Леніна ў Мінску была месцам сустрэч тых, чыё грамадзянскае сумленне не мірылася з напаўзаючай рэакцыяй, з удушэннем дэмакратыі групай узурпатараў, што назвалі сябе "ДКНС".

Вечарам 21 жніўня плошча таксама нагадвала растрывожаны вулей, але твары людзей ужо былі светлымі, усмешлівымі. Многія трымалі ў руках партрэты Прэзідэнта, пераможныя лозунгі. А народным выбраннікам, якія два папярэднія вечары дзялілі з імі тут трывогі і выпрацоўвалі тактыку грамадзянскага непадпарадкавання самазванцам, неслі і неслі кветкі ўдзячнасці.

Мітынг пачаўся мінутай маўчання ў памяць аб тых, хто загінуў мінулай ноччу ў Маскве, абараняючы Канстытуцыю, законнасць, грамадзянскае сумленне.

Каля мікрафона не было адбою ад жадаючых выступіць. Гаварылі ветэраны і моладзь, рабочыя, вучоныя, студэнты... Сутнасць усіх прамоў зводзілася да таго, што сёння ў савецкіх людзей прачнулася самасвядомасць і асабістая адказнасць за дэмакратычныя перамены, якія адбываюцца. І што палітычныя авантуры з такімі людзьмі ўжо не пройдуць.

Тут жа на плошчы была прынята рэзалюцыя з патрабаваннем аддаць суду членаў "ДКНС" і іх памагатых. Пад ёю паставілі свае подпісы сотні мінчан.

*ЗАЯВА*

## СОРАМНА...

Камуністы выдавецтва "Мастацкая літаратура" выступілі з наступнай заявай:

"У трагічную гадзіну суровага выпрабавання народа ў барацьбе за дэмакратыю, галоснасць, адраджэнне нацыянальнай свядомасці мы зведалі пачуцці непаразумення і сораму за маўклівую двурушніцкую пазіцыю ЦК КПСС у дні дзяржаўнага перавароту ў краіне.

Аддаўшы Прэзідэнта краіны і Генеральнага сакратара ў рукі клікі здраднікаў, кіраўніцтва ЦК КПСС тым самым здрадзіла свайму генсеку і ўсёй партыі.

У нас выклікае глыбокае абурэнне той факт, што, калі Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын, іншыя лідэры рэспублікі выйшлі адзін на адзін змагацца з хунтай, бюро ЦК Кампартыі Беларусі прыняло зварот, па сутнасці, у падтрымку арганізатараў дзяржаўнага перавароту.

У гэтых умовах сумленне і пачуццё грамадзянскай годнасці прадыктавалі нам рашэнне прыпыніць сваё членства ў КПСС, кіраўніцтва якой, на нашу думку, з'яўляецца кансерватыўным, адарвалася ад жыцця і народа.

Мы шлём гарачае прывітанне Прэзідэнту Расіі Барысу Ельцыну, усім лідэрам братняй рэспублікі і народам свабоднай Расійскай федэрацыі. Мы верым, што на хвалі нацыянальнага адраджэння такія лідэры з'явяцца і на Беларусі".

*ДАБРАЧЫННАСЦЬ*

## "ЗНІЧ" УСЯЛЯЕ НАДЗЕЮ

З Савецкага консульства ў італьянскім горадзе Балоння ў адрас Беларускага саюза імя П. М. Машэрава "Зніч" прыйшоў факс: падрыхтавана да адпраўкі новая партыя дабрачыннага грузу. У няблізкую дарогу збіраецца грузавік уласнага аўтапрадпрыемства гэтай арганізацыі.

— Нашым добрым партнёрам стаў італьянскі бізнесмен з горада Удзіне сіньёр Джавані Даніель, — гаворыць віцэ-прэзідэнт "Зніча" Уладзімір Пятроў. — Ён арганізаваў на сваёй радзіме фонд "Мінск — Чарнобыль", дапамога якога ацэньваецца ў 200 мільёнаў італьянскіх лір. Але ўзаемаадносіны нашых фондаў ідуць далей звычайнай дабрачыннасці. Сіньёр Даніель пабываў у Мінску і Салігорску: ішло абмеркаванне праекта сумеснага будаўніцтва ў горадзе шахцёраў завода па вытворчасці дзіцячага малочнага харчавання. Ужо падпісаны дагавор.

*ТАМОЖНЯ*

## УСЁ БУДЗЕ ПА ЗАКОНУ

У СССР уведзена новае таможнае заканадаўства: пачынаюць дзейнічаць Таможны кодэкс СССР і саюзны Закон аб таможным тарыфе.

Таможны камітэт будзе забяспечваць утрыманне падаткаў, збіраць, апрацоўваць і аналізаваць даныя таможнай статыстыкі. Таможнікі атрымалі права праводзіць дазнанне, вырашаць пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы.

18 артыкулаў новага кодэкса акрэсліваюць канкрэтныя выпадкі парушэнняў, і гэта практычна выключае самавольства таможнікаў. Што датычыцца працэдуры кантролю, то яе абяцаюць максімальна дэмакратызаваць, пазбавіць людзей ад чэргаў, непатрэбный валакіты, выкарыстоўваючы сучасныя таможныя тэхналогіі.

*ДЭЛЕГАЦЫЯ ААН*

## ЗНАЁМСТВА З БЕЛАРУСКАЙ ЧЫГУНКАЙ

Дэлегацыя эканамічнага камітэта ААН у складзе прадстаўнікоў Аргенціны, Балівіі, Бразіліі, Чылі, Калумбіі, Кубы, Парагвая, Перу і Уругвая на працягу трох дзён 19—21 жніўня знаёміліся з работай асобных падраздзяленняў Беларускай чыгункі.

Ва ўпраўленні чыгункі адбылася сустрэча з кіраўніцтвам магістралі. Гасцям расказалі аб арганізацыі прыгарадных зносін на Мінскім вузле. Члены дэлегацыі на перагоне Стоўбцы — Гарадзея знаёміліся з механізаваным спосабам рамонту пуці, на вытворчых плошчах рэйказварачнага поезда ў Оршы пазнаёміліся з тэхналогіяй зваркі рэек у стацыянарных умовах.

У заключэнне знаходжання яны дёпла падзякавалі прадстаўнікам Беларускай чыгункі за гасцінны прыём, высока ацанілі работу чыгуначнікаў нашай магістралі.

*БАРТЭР ПА-РАССВЕТАЎСКУ*



**Новы від бартэрных здзелак апрабаваны калгасамі "Рассвет" імя Арлоўскага Кіраўскага рэёна Магілёўскай вобласці і "Барацьба за мір" Кіраўскага раёна Крымскай вобласці. У адпаведнасці з дагаворам, які заключылі ў мінулым годзе кіраўнікі гэтых гаспадарак, беларусы абавязаліся ў сябе вырасціць для крымчан на пяці гектарах бульбу, а тыя для беларусаў на такой жа плошчы — памідоры. Затраты па дастаўцы бульбы і памідораў узяў на сябе калгас "Рассвет". Частка атрыманых памідораў перададзена ў калгасныя сталовыя, астатнія — у фірменны магазін "Рассвета" ў Бабруйску. Больш познія сарты таматаў мяркуецца адправіць на кансерваванне ў калгасны цэх.**

**НА ЗДЫМКУ: уборку таматаў вядзе прысланая з "Рассвета" брыгада. На пярэднім плане — Анатоль ЧЫЖЫК.**

*ВЫСТАЎКІ*

## ЧАРНОБЫЛЬСКІ ЦЫКЛ

У Палацы мастацтва сталіцы адкрылася дабрачынная выстаўка карцін "Чарнобыльскага цыкла" народнага мастака СССР і БССР Міхаіла Савіцкага.

Дзевяць карцін, работа над якімі была завершана да пятай гадавіны бяды, выносяцца на суд беларускага гледача. ("Голас Радзімы" летась шырока знаёміў нашых чытачоў з работай мастака, старшыні прэзідыума Беларускага таварыства "Радзіма" Міхаіла Савіцкага над "Чарнобыльскім цыклам").

Усе сродкі ад правядзення выстаўкі будуць накіраваны арганізатарамі — фондам міжнароднага супрацоўніцтва па сацыяльнай абароне "Беларусь" і рэдакцыяй газеты "Вячэрні Мінск" — на вырашэнне сацыяльна-медыцынскіх праграм.

## ВЫРАТАВАНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ

У залах Магілёўскага музея дзекабрыстаў разгорнута экспазіцыя ікон "Выратаваныя каштоўнасці".

Усе выстаўленыя іконы — з фондаў Брэсцкага краязнаўчага музея. А туды яны трапілі з... таможні. За апошніх 15 гадоў на Брэсцкай таможні канфіскавана больш як дзве з палавінай тысячы ікон, якія кантрабандным шляхам вывозіліся за мяжу.

*ГРАМАДСКІ РУХ*

## НОВАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ

Ініцыятыўная група аб'яднанняў ахвяр незаконных палітычных рэпрэсій у Бабруйску ўтварыла арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні ў верасні — кастрычніку рэспубліканскага ўстаноўчага з'езда Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій, якая аб'ядноае як былых, цяпер рэабілітаваных вязняў ГУЛАГа, так і іх блізкіх — удоў, дзяцей. Распрацаваны праект статута будучай асацыяцыі, вызначаны асноўныя мэты і задачы аб'яднання: садзейнічанне ў ахове правоў і аказанне разнастайнай дапамогі пацярпеўшым ад рэпрэсій, дасягненне поўнай і публічнай рэабілітацыі ўсіх ахвяр беззаконня, удзел у адшуканні месцаў тайных пахаванняў ахвяр масавых рэпрэсій і ўвекавечанне іх памяці.

Пакуль у Беларусі зарэгістраваны тры аб'яднанні рэпрэсіраваных: Бабруйскае, Брэсцкае і Гродзенскае.

*ВЕЧАР ДРУЖБЫ*

**Святам беларускай і французскай культуры стаў вечар дружбы, што прайшоў у Доме культуры тэкстыльшчыкаў Магілёўскага вытворчага аб'яднання шаўковых тканін. Народныя песні і танцы выконвалі самадзейныя артысты фальклорнай групы "Ле Гёрле дзю Клен" з дэпартамента Вьена і харэаграфічнага ансамбля "Рунь".**

**Творчыя сувязі паміж гэтымі ансамблямі зарадзіліся яшчэ ў 1989 годзе на міжнародным фестывалі фальклорных калектываў. Затым магіляўчане былі запрошаны на наступны фестываль у Францыю. І вось візіт у адказ артыстаў "Ле Гёрле дзю Клен" у Магілёў. Французскія госці пазнаёміліся не толькі з архітэктурай горада і славутымі мясцінамі, але і больш даведаліся пра жыццё сваіх сяброў у Беларусі.**



**НА ЗДЫМКУ: беларускімі песнямі і танцамі сустракаў французскіх гасцей харэаграфічны ансамбль "Рунь".**

ФЕРМЕРСТВА І ЯГО ПРАВАВЫЯ ПРАБЛЕМЫ

# СТАНОВІШЧА Ў ВЁСЦЫ— КАТАСТРАФІЧНАЕ

По выніках сацыялагічных даследаванняў выяўлена, што фермерствам у БССР жадалі б заняцца пяць працэнтаў калгаснікаў і рабочых саўгасаў. Як лічаць спецыялісты, з улікам аб'ектыўных магчымасцей, у рэспубліцы трэба арыентавацца на стварэнне каля 20 000 сялянскіх гаспадарак, у тым ліку ўжо на першым этапе — 10 000. Пакуль жа за фермерскі гуж узяліся ўсяго 353 сялянскія сям'і. Чаму ж працэс прыватызацыі ў аграрным сектары рэспублікі, парламент якой аб'явіў сельскую гаспадарку ключавым сектарам эканомікі, ідзе так марудна, а сяляне з аглядкай прынялі заклік "стаць гаспадарамі зямлі"? З такім пытаннем наш карэспандэнт звярнуўся да старшыні беларускай сялянскай партыі **Яўгена ЛУГІНА**. Гэта палітычная арганізацыя нядаўна атрымала юрыдычны статус і абвясціла сябе абаронцай прававых інтарэсаў фермерства.

— Перш за ўсё таму, што здаровая эканамічная праграма, якая прадугледжвае радыкальную рэформу аграрнага сектара рэспублікі, пакуль застаецца пазбаўленай якіх-небудзь цывілізаваных прававых адзенняў. З названых лічбаў відаць, як "рэалізуюцца" палажэнні саюзнага заканадаўства аб правядзенні зямельнай рэформы. Слаба ўвасабляецца ў жыццё і рэспубліканскі закон аб зямлі, арэндзе, а асабліва аб стварэнні сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак. Гэта насцярожвае сялян.

Вось мы, прадстаўнікі Беларускай сялянскай партыі, і вырашылі ўзяць пад кантроль захаванне заканадаўства аб зямлі. Наша партыя — арганізацыя палітычная. Але палітыкай мы будзем займацца галоўным чынам для таго, каб растлумачыць эканамічную сітуацыю ў аграрным сектары Беларусі, бо на старонках партыйнага рэспубліканскага друку ўсё падаецца ў занадта добрым выглядзе. А становішча спраў, шчыра скажу, катастрафічнае. У выніку павышэння закупачных цэн на сельгаспрадукцыю прыбаўка грошай у сельскіх касах павінна была ўзрасці на 3,1 мільярда рублёў. Гэта з аднаго боку. Але з другога — за кошт павышэння цэн на матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы, у прыватнасці тэхніку, з гэтых жа кас будзе забрана 5,6 мільярда рублёў. Нічым не кампенсуемы расход дасягае 2,5 мільярда рублёў. У выніку такой цэнавай палітыкі фінансавая сітуацыя складваецца зусім не на карысць селяніна.

Прыплюсуем да гэтага становішча з зямельным фондам рэспублікі, якое з кожным годам пагаршаецца. За апошнія 20 год з сельскагаспадарчага абароту было выведзена 600 тысяч гектараў. Акрамя таго, яшчэ 257 тысяч з-за аварыі на Чарнобыльскай АЭС. І яшчэ мяркуецца выключыць 310 тысяч гектараў сельгасугоддзяў. Кампенсаваць вытворчасць прадукцыі толькі павышэннем ураджайнасці сельскагаспадарчых культур немагчыма: урадлівасць нашай зямлі-карміцелькі на мяжы. Магчыма частковая кампенсацыя выбываючых зямель за кошт новай меліярацыі ў паўночнай частцы рэспублікі. Аднак грошай на гэта няма. Калгасам і саўгасам прапаноўваецца ажыццяўляць гэтыя работы толькі за кошт уласных крыніц, а іх не хапае нават на пакупку тэхнікі. Тэхніка так падаражала, што нават такому багатаму калгасу, як "Рассвет" у Магілёўскай вобласці, старшыня якога — вядомы Васіль Старавойтаў, набыць яе не па сілах. Гавораць, бярыце крэдыты пад 12 працэнтаў. А цэны на прадукцыю сяла застаюцца нязменнымі, іх трымаюць пад жорсткім кантролем. Практычна нічога не мяняецца ў крэдытнай, забеспячэнскай палітыцы. Па прагнозах, да гэтай зімы могуць разарыцца тысячы гаспадарак. Некаторым з іх ужо сёння няма чым плаціць зарплату калгаснікам.

Калі своечасова не прыняць надзвычайных мер, у Беларусі разарацца звыш 60 працэнтаў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў.

Разлікі Беларускага навукова-даследчага інстытута аграпрамысловага комплексу паказваюць, што ўжо ў першым паўгоддзі гэтага года 400 нізкарэнтабельных гаспадарак (а ў іх працуе 125 000 чалавек) аказаліся фактычна без фінансавай, матэрыяльнай і іншай дапамогі. Яны не могуць выжыць.

Пра якое "прыярытэтнае развіццё вёскі" сёння можна весці размову, калі яна развальваецца на нашых вачах. Энергаўзброенасць яе ў пераліку на аднаго працуючага складае ўсяго 39 конскіх сіл, у той час як у развітых краінах — 130 конскіх сіл.

На думку старшыні Саюза аграрнікаў Беларусі Аляксандра Дубко, да заганнай практыкі вядзення аграрных спраў нас прывялі негатыўныя адносіны да прыватнай уласнасці з боку адміністрацыйна-каманднай сістэмы, якая трымаецца на двух кітах. Першы — манаполія дзяржавы на ўласнасць, а значыць, манапольнае права распараджацца тым, што ствараецца працай народа. Другі кіт — палітычная манаполія, якая стаіць на варце манаполіі дзяржавы на ўласнасць. Вось і вынік: ва ўсіх цывілізаваных краінах чалавек, які працуе, атрымлівае ў сярэднім дзве трэція ад таго, што вырабляе, у нас — менш адной пятай.

Адзінае выйсце — ліквідацыя манаполіі дзяржавы на зямлю. Толькі ў гэтым выпадку мы пазбавім сялян ад прыгонніцкай дзяржаўнай залежнасці, і яны змогуць накарміць краіну.

Зараз шмат гаворыцца аб неабходнасці правядзення рэферэндуму адносна прыватызацыі зямлі. Але ёсць праблемы, якія большасцю галасоў не рашыць, бо яны складаюць неад'емнае права кожнага чалавека.

Хоча чалавек узяць зямлю ў індывідуальнае карыстанне — такое права павінна быць яму прадастаўлена. Жадае калгас ці саўгас узяць зямлю ў калектыўную ўласнасць — гэта павінна стаць яго неад'емным правам. Захочуць працаўнікі калгаса ці саўгаса захаваць цяперашнюю форму гаспадарання (быць арандатарам у дзяржавы) — з Богам! Няхай кожны на справе дакажа перавагу сваёй сістэмы гаспадарання. Умовы "выжывання" павінны быць аднолькавымі для ўсіх. І тады калгасна-кааператыўная ўласнасць, калі яна зможа без дзяржаўных датацый стаць эканамічна эфектыўнай, "упішацца" ў рыначныя адносіны.

Ужо зараз трэба браць пад узмоцнены кантроль захаванне заканадаўства аб зямлі. Нядаўна мы ў Беларусі правялі з'езд беззямельных сялян — тых, хто хацеў узяць зямлю, але яе не атрымаў. На справе высветлілася, што на месцах ствараюцца штучныя перашкоды пры выдзяленні зямлі жадаючым. А калі яна і даецца, дык непрыдатная, на якой нічога не пасадзіш і не пасееш. Парушаюцца амаль усе нарматыўна-прававыя акты ў адносінах да фермерскага землекарыстання. Неабходна знізіць падаткі з сялянскіх гаспадарак, якія моцна б'юць па эканамічных і сацыяльных інтарэсах вёскі.

Зямля павінна належаць тым, хто яе апрацоўвае. Задача зямельнай рэформы ў тым, каб злучыць прыватную ўласнасць на зямлю з вытворцам, а не ў тым, каб раздаць або распрадаць яе любому жадаючаму.

Прыватная ўласнасць у вёсцы без карыстання зямлёй нараджае паразітызм. Карыстанне зямлёй без права ўласнасці, наадварот, нараджае безгаспадарчасць і рвацтва. Таму неабходна рашыць карэннае пытанне — аб праве прыватнай уласнасці на зямлю, бо яна з'яўляецца асновай рыначнай эканомікі.

**Рыгор КОЛАБАЎ.**

ЭКАЛОГІЯ І ЧАЛАВЕК





**Садзейнічаць паляпшэнню экалагічнай абстаноўкі ў вобласці — мэта Гомельскага прадпрыемства энергетычных і радыяцыйных даследаванняў, заснавальнікамі якога сталі мясцовы гарвыканком і Беларускі камітэт па справах Чарнобыля. У планах прадпрыемства — арганізацыя поўнай дэзактывацыі дзіцячых устаноў, рэкультывацыі зямель, пахаванне радыеактыўных адходаў у адпаведнасці з нормамі бяспекі. На сёння на тэрыторыі вобласці знаходзіцца больш за 70 "магільнікаў" (не лічачы тых, што ў 30-кіламетровай зоне). Супрацоўнікі прадпрыемства — а спецыялісты тут сабраліся вопытныя, тыя, хто прайшоў школу палігонаў у Семіпалацінску і на Новай Зямлі, удзельнічаў у збудаванні саркафага ЧАЭС — даследуюць "пахаванні", складаюць на кожнае пашпарт, вызначаюць, дзе тоіцца асаблівая небяспека для навакольнага асяроддзя і якія неабходна прымаць меры для яе ліквідацыі.**

**НА ЗДЫМКАХ: абследуюцца "магільнікі" на тэрыторыі Добрушскага раёна; намеснік дырэктара прадпрыемства па навуковай рабоце Леў БЕЛАВАДАЎ замярае ўзровень радыяцыі.**

Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.

ЗАМЕСТ КАМЕНТАРЫЯ

# ТРЫВОЖНА...

І зноў Расія ратавала свет? Як бы каму ні хацелася адмоўна пакруціць галавой, а прыйдзецца прызнаць гэты неаспрэчны факт. Мы не ведаем, як развіваліся б падзеі далей, удайся пераварот, але свет нездарма з трывогай сачыў за тым, што адбывалася ў гэтыя тры жнівеньскія дні ў нас і з намі. Яшчэ такія блізкія доўгія гады "халоднай вайны", яшчэ сніцца ў кашмарных снах процістаянне, жыццё пад нацэленымі на нашы і іх гарады ракетамі.

Ні адна рэспубліка не выступіла ясна і цвёрда супраць новага рэжыму — устала на дыбкі Расія, ні адзін лідэр не асмеліўся выступіць з адкрытым забралам, акрамя Барыса Ельцына. Можа таму, што яму ўжо не было чаго губляць: спазніся ён на 20 мінут пакінуць сваю дачу — і быў бы ўзяты "путчыстамі".

У Звароце Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР да беларускага народа пераварот названы "ўзнікшым крызісам", дзеля пераадолення якога мы павінны кансалідавацца і не дапусціць канфрантацыі. У аналагічным Звароце ЦК Кампартыі Беларусі да камуністаў і ўсіх працоўных рэспублікі авантура названа "адказнай паласой выпрабаванняў", "вымушанымі мерамі па навядзенню парадку ў краіне".

Толькі парламенцкая апазіцыя Беларускага народнага фронта "Адраджэнне" заняла акрэсленую пазіцыю: у Маскве адбыўся антыканстытуцыйны дзяржаўны пераварот. Дэпутаты ад апазіцыі патрабавалі ад Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР склікаць неадкладна надзвычайную сесію, а калі атрымалі адмоўны адказ, пачалі збіраць подпісы народных дэпутатаў БССР у падтрымку сваёй прапановы.

Апазіцыя ішла на плошчу перад Домам урада да народа, які трымаў у руках партрэты Міхаіла Гарбачова, патрабуючы яго вызвалення. Дзіўны наш народ — на гэтай жа плошчы ў красавіку ён у адзін голас патрабаваў адстаўкі Прэзідэнта СССР. Можа, гэтую логіку паводзін людзей растлумачыць заява мінскага стачкома, які заклікаў да адпору самазванай уладзе. Здаецца, заявілі стачкомаўцы, што нашы палітычныя патрабаванні нібыта і выкапаны: мы дамагаліся адстаўкі Прэзідэнта — і Прэзідэнт адсунуты ад улады. Але мы не можам пагадзіцца з неканстытуцыйнасцю метадаў змоўшчыкаў і таму выступаем у падтрымку таго ж Прэзідэнта.

Тры дні, якія скаланулі свет, мінавалі, і трывога змянілася эйфарыяй перамогі. Але радасць хутка міне, а трывога зноў будзе шчымець у нашых сэрцах. Па-першае, людзі не ўпэўнены, што заўтра іх сацыяльнае становішча палепшыцца. А па-другое, хто можа даць гарантыю, што гэта быў "апошні і рашучы бой". Здаецца, праблемы, якія ляглі ценем паміж Гарбачовым і Ельцыным, да канца не рассеяліся. Якімі цяпер будуць стасункі паміж вязнем Фароса і кумірам расійскага "белага дома?" А галоўнае, як паставіцца да нас Еўропа, Амерыка — цэлы свет?

...Калі пісаў гэтыя заметкі, якраз зайшлі ў рэдакцыю двое суайчыннікаў з Англіі, якія гасцявалі ў Беларусі. Вядома, маё першае пытанне да іх: "Што яны думаюць пра апошнія падзеі?" "Свет цяпер зноў вас баіцца, — адказалі мае суайчыннікі, — і спатрэбіцца, ой, як многа часу, каб за мяжой паверылі і пераканаліся, што падобны пераварот у СССР ужо немагчымы".

Трывожна...

Якія выпрабаванні яшчэ нам наканаваны?

**В. КРАСЛАЎСКІ.**




97

Ён спаткаў караля ў садзе і незадаволена пачаў выказваць сваё здзіўленьне: усё курапаткі ды курапаткі... Кароль паглядзеў на яго пільна і прамовіў:

— А ў мяне ўсё Марыя-Хрысьціна, усё Марыя-Хрысьціна.

Набожны абат на гэты раз добра зразумеў караля.

— Якая ж мараль адсюль? — запытаў Карусь сваім, як раскаты грома, голасам.

— Так хіба ня можаш сам дадумацца, — сказаў насьмешліва Загорскі. — Шкада! — І прадоўжываў: — Жанчын, грамадзяне, трэба мяняць, як блюда: вось мараль гэтага анекдоту.

— Брава, Загорскі! — хлопаў у далоні Малевіч. — Брава! Ты ўсіх нашых беларусаў за пояс заткнуў.

— А ведаеце, — усьмяхнуўся Кірыла, — што казаў Янка Станкевіч пра такіх, як ты?

— Ну?

— Ён казаў, што ад шлюбу беларусаў з полькамі, расейкамі ці чэшкамі дзеці родзяцца ідыётамі.

— Мусіць ён сам — плод такога шлюбу, — засьмяяўся Загорскі.

Усе пачалі ўсьмяхацца на гэту тэму.

— Ну, дзядзька Загорскі, — перарваў сьмех і спрэчкі Малевіч, — канкрэтная прыпазыка: спыніць спрэчкі, зайсьці ў клубоўну і выпіць за посьпех тваей кар'еры.

— Так, так, выпіць, — казала частка любіцеляў павесяліцца, — абавязкова выпіць.

— Ну што ж, я не адмаўляюся, — казаў Загорскі. — Калі вы паставіце — я таксама згодны...

— Грамадзяне, — казаў Малевіч, — па кружцы

98

піва. — "Дружна-сьмела на сьвет цэлы — песьню запяём"...

— Пагуляйце, грамадзяне, — сьмяяўся Кірыла, — сяньня якраз пасьля атрыманьня стыпэндыі...

Усе пайшлі ў клубоўну выявіць за півам сваю радасьць за ўсё тое, што добра канчаецца. Усе былі шчасьлівы, што яшчэ ў гэтым годзе засталіся на стыпэндыі. І ўсе разам з гэтым хацелі выпіць за посьпехі Загорскага, адхадзіўшага можа быць надоўга ад беларускай грамады ў Празе. Адзін "айцец" Кірыла не прыняў у гэтым удзелу, разьвітаўся з усімі й пайшоў дахаты.

II

Тугоўскі параязджаў у інтэрнат. Усё было яму знаёма. Той самы поўны ў залатых галунах швэйцар вітаў яго, адчыняючы зялёную браму. Той самы платан стаяў перад пад'ездам. Тыя самыя ліхтары віселі каля дзьвярэй. Тая самая альтанка моўчкі чарнела ў куту саду, нагадваючы аб тым, калі ён спаў у ей. Усё было тое самае, толькі зіма ўжо пакрыла белай простыняй сад і занясла дарожкі... Тугоўскі ішоў і думаў аб іроніі, аб насьмешцы лёсу. Ён зноў вяртаецца на старыя сялібы, зноў каля разьбітага карыта. "Па-людзку", як казаў Кірыла, вельмі мала прыйшлося яму жыць. Цяпер ён кандыдат зноў у брадзягі. Яму трэба здаць экзамены да вясны, інакш ад яго адбяруць нават частковую стыпэндыю і прагоняць нават з інтэрнату! І ўсё па міласьці каго? Тэй, каторую ён кахаў. Яна — гэта прыгожая, з вытачанымі стройнымі ножкамі, — была вінавайцам яго цяперашняга правалу. Яна зрабіла тое, што ён перастаў вучыцца. З-за яе ён блукаў па месту, пісаў вершы,

99

маляваў жаночыя галоўкі і ня мог падрыхтаваць сур'ёзных прадметаў...

Цікава, што гутараць пра яго ў грамадзе? Напэўна, думаюць, што Тугоўскі адзін з самых няздольных сяброў Грамады, якога перавялі з поўнай на частковую дапамогу... Цяпер ён ня будзе атрымліваць з камітэта ні чаравікаў, ні бялізны — нічога. Цяпер, напэўна, Загорскі сьмяецца з яго і радзіць сябрам адправіць яго ў "Інстытут псыхічных досьледаў". Ну што ж, няхай сьмяюцца з яго сябры! У рэшце рэшт кожны жыве, як умее. Каму якая справа да яго жыцьця? Ён кахаў і кахае, у гэтым ёсьць для яго ўнутрашняе апраўданьне... А сябры няхай думаюць, што хочуць... Ён падняўся па драбіне ў пакой. У пакоі было цёпла. Вялікая чыгунная печка была напалена да чырвонага, каля печкі, сабраўшыся наўкола, сядзелі з кнігамі і газетамі ўжо знаёмыя Тугоўскаму людзі. Галічанін Серада ў кутку граў на мандаліне і сьпяваў:

**Човен ківаецца сярод вады,**
**Б'ецца аб бераг вясло.**
**— Мілы, мой любы, прыдзі, ах прыдзі:**
**Забудзеш дзённае зло...**

Тугоўскі лёг на вольную пасьцель, прадназначаную для яго, кінуў свае рэчы на падлогу і пачаў азірацца. Навокал было тое самае, тыя самыя брадзячыя таленты глядзелі на яго з усіх бакоў, але на гэты раз ён не пачуў да іх ніякага сантымэнтальнага каханьня, як калісьці... Цяпер ён, напэўна, не заплакаў бы пад сьценкай, як калісьці ад іх граньня і сьпеваў. Пасьля прыветнага памяшканьня ў чыстай чэскай сям'і яму здалося, што ён папаў у нейкі вертэп, глыбока на цёмнае, бруднае дно. Ён пачаў прыслухвацца да размоў.

100

— Аб'ехалі мы з хорам Кошыця[1] ўсю Эўропу, — казаў нейкі прыгожы бледны ўкраінец з віючыміся валасамі. — А трэба вам сказаць, што ўкраінскі хор Кошыця вядомы з замежных газэт — нямецкіх, францускіх, бельгійскіх, ангельскіх. У Бельгіі на нашым канцэрце быў прысутны кароль з каралевай. Дык вось, прыязджалі мы з Кошыцем у Барсэлону. Слаўны горад, чысьценькі, з прыгожымі ваканіцамі. Грашоў у нас шмат (мы атрымлівалі ад урада Украінскай Дырэкторыі), але ўсё — украінскія грыўны. Што рабіць? Сяджу ў рэстаране з адной паненкай — прыгожым начным матылём. Сяджу я, а ў самога жара так і падымаецца: чую — тэмпература каля 40, усё роўна, як ад гішпанскай хваробы... Дрэнная справа... Хочацца мне правясьці бязумную гішпанскую ноч у Барсэлоне, але за што? За ўкраінскія грыўны? Я пускаюся на хітрасьць.

— Ведаеце, багаты амэрыканец прыехаў з Аргэнтыны на ўкраінскі канцэрт. — Выбіраю партманэт з набітымі "грыўнамі" і паказываю ей.

— Якія гэта грошы? — пытае яна.

— Аргэнтынскія!.. Яны па сваёй вартасьці не ўступаюць далярам.

— Якія цікавыя грошы, — кажа гішпанка. — Я такіх ніколі не бачыла.

Я выбраў і даў ёй адну ўкраінскую грыўну.

— Ах, як я рада, — казала яна. І яна схапіла мяне ў такія гарачыя абоймы, на якія можа толькі гішпанка, што запамятаў усё: і хор Кошыця, і Украіну, і Барсэлону, і ўсё на сьвеце.

Так прайшла дзіўная ноч у Барсэлоне, за адну ўкраінскую грыўну! — Апавядальшчык рассьмяяўся.

— Лоўка, — усе засьмяяліся.

101

— А яна не шукала цябе потым? — запытаўся чыйсьці голас.

— Дзе там шукаць... На заўтра паўднём мы выехалі з Барсэлоны...

Настала ціша.

— Падсып там у печку, — прамовіў пажылы, з доўгімі папоўскімі валасамі і з доўгай люлькай у зубах чалавек да сядзеўшага каля печкі апавядальшчыка. — А я вам раскажу, грамадзяне, — пачаў ён, выпусьціўшы з люлькі мора дыму, — больш цікавае здарэньне. Было гэта падчас грамадзянскай вайны на Украіне. Я служыў тады ў арміі Пятлюры, насіў чуб-осэлэдэц, які можна было закласьці за вуха, і змагаўся з бальшавікамі. Вось неяк ранкам пайшлі мы ў разьведку. Яшчэ ўсход толькі пачынаў разавець і над балотам падымаўся туман, калі мы падыйшлі да невялікага разьезду. Чуем у кустах крыху ў баку ад чыгункі — галасы... Шэпчуцца... Мы абкружылі гэтае мейсца і раптам крыкнулі:

— Стой! Здавайся!

Нешта піснула, ахнула, і з травы паднялося трое прыгожых жанчын з паднятымі рукамі. Мы ледзь не прыселі ад зьдзіўленьня. Вось якіх курат злавілі! Выхаджу я наперад, камандую:

— Зараз за намі ў штаб! Шпіонкі вы.

Аказываецца, яны не шпіонкі. Яны артысткі, займаліся спекуляцыяй. Узялі па торбе белай мукі сабе на хлеб, бо есьць няма чаго: савецкія ёсьць, а есьць няма чаго. Ды вось наткнуліся на савецкі заградзіцельны атрад. Каб уцячы, яны рашылі перайсьці да нас са ўсімі торбамі мукі... Думалі, мы людзі інтэлігэнтныя, не дазволім сабе зьдзеку над імі. Але, калі яны пабачылі нас, дык задрыжэлі, як асінавыя лісты. Напэўна, мы настрашылі сваімі

102

"осэлэдцамі". Прывялі іх у штаб. Чорт іх ведае: можа, запраўды шпіонкі якія-небудзь. Мы нават не маглі паверыць, што гэта жанчыны. Хто ведае, можа гэта перапрануліся мужчыны? Прыказалі ім зараз распрануцца. Дрыжачы ад страху і сораму, яны распрануліся і стаялі перад намі, як пакорныя авечкі... Зрабілі дапрос. Усё аказалася ў парадку. Мы ім паверылі. Начальнік, кончыўшы дапрос, усьмяхнуўся і сказаў:

— Ну, хлопцы, думаю, што на дапросе вы пакажаце сябе інтэлігэнтнымі ў адношаньні гэтых трох дам. Іх трое — і вас трое. Выбірайце сабе любую.

З гэтымі словамі ён вышаў з пакою... Засталіся мы адны, пераглядаемся, сьмяемся на свае ахвяры... Што ж рабіць з імі? Вазіць іх з сабой? Не такі час, але наогул у нас жанчын няма... Бог ведае, калі мы іх бачылі. Стаім і глядзім, выбіраем. Нарэшце, выбралі. Мне папалася нейкая сьпявачка. Артыстка! Жыцьцё сваё ня меў артыстак, нават ня бачыў, а тут на табе — шчасьце прываліла... Ну, вось і папрабаваў я.

Апавядальшчык замоўчаў і пачаў цягнуць раз за разам даўгую люльку.

— А далей што было? — нецярпліва запытаў чысты голас.

— Далей пайшло ўсё добра, яна мне на памяць дала залаты гадзіннік, яна сьпявала ў маіх абоймах, як птушка ў абоймах кошкі, рамансы аб каханьні. Гэта была напэўна яе лебядзіная песьня,

103

бо назаўтра зраньня...

Ён замаўчаў і пачаў падкладаць вугальля. Вугаль успыхнуў у чырвонай печцы і загудзеў.

— Што назаўтра зраньня? — запытала некалькі чалавек.

— Назаўтра мы адступілі ад гэтага мейсца.

— А яна? — запытаў Серада з кута. Кінуўшы гуляць, ён прыслухіваўся да размовы. — Ты яе забіў?

— Яе? — неахвотна перапытаў апавядальшчык, выбіваючы люльку. — Не... Я на разьвітаньне толькі перацягнуў яе пару раз... Але яе, здаецца, потым расстралялі.

Усе замаўчалі. Тугоўскі глядзеў на сядзеўшых у пакоі людзей і вушам сваім ня верыў. Куды ён папаў? Гэта вертэп нейкі, а не студэнцкі інтэрнат. І чаму ён раней так ідэальна глядзеў на людзей?! Хоць і ў іх трэба знаходзіць што-небудзь людскага.

Серада паглядаў на Тугоўскага і ўсьміхаўся. Ён парушыў нарэшце цішу:

— Слухай і вучыся!

— Гэтыя універсытэты не для мяне, — адказаў Тугоўскі, пераварочваючыся на пасьцелі сьпіной да Серады... Серада не стрымаў:

— Ну скажы, Тугоўскі, што б ты рабіў, каб у цябе была-б дзяўчына? Ты, напэўна, ня ведаў-бы, што рабіць?

Усе засьмяяліся. Гэтага толькі сьмеху напэўна і хацеў Серада. Ён пачаў (...) на Тугоўскага і сьмяяцца на ўвесь пакой. Тугоўскі маўчаў. Праз нейкі час сьмех заціх і ўсе зноў прыняліся за апавяданьня. Тугоўскі зажмурыў вочы, стараючыся ня слухаць... Ува ўсіх размовах фігурамі былі жанчыны... І тут ён ня меў спакою ад жанчын, і тут

104

толькі гутарылі аб іх. Але як брыдка, як нізка ставілі тут жанчыну, якую нявольніцу сваёй пахаці рабілі яны з яе. Проста жахліва! Як далёкі ён, ой, ад таго, што ведалі гэтыя людзі з усіх краёў і ўсіх частак сьвету. Як лоўка цанілі яны жанчын розных рас — і чорных, і белых, і жоўтых, і каштанавых — быццам разглядаючы калекцыю розных матылёў...

Тугоўскі ляжаў, а ў яго вушы ляцелі словы пра жанчын. Ён хацеў выкінуць усе думкі аб жанчынах. І чым грубей маляваўся інтэрнацкімі жыхарамі вобраз жанчыны, тым мілей яна яму, тым яскравей выплываў сярод вобразаў жанчын розных рас і народаў вобраз Вярхоўскай! Дзе ж тут пасьля гэтага вучыцца! Яго напэўна наўмысьля перасадзілі ў інтэрнат, каб ён ня мог здаць экзамены і каб яго выкінулі са стыпэндыі гэтай вясной! Вучыцца можна было толькі ўночы, вечарам інтэрнат пусьцеў, усе адпраўляліся шукаць шчасьця ў начную Прагу. Адны йшлі на рандкі напудраныя і напарфумленыя ў рукавічках на шырокай рабочай руцэ, другія садзіліся за столік рулеткі ці картаў. Інтэрнат пусцеў. Але якая навука была ўночы? Тугоўскі з жахам думаў аб гэтым і ляжаў нерухома на пасьцелі з зачыненымі вачыма. Калі ён адчыніў вочы, у інтэрнаце было напалову цёмна, вісячая лямпа слаба асьвятляла вялікі пакой. Пад лямпай каля велізарнага столу стаяў апрануты Серада і пудрыўся.

Працяг.
Пачатак у №№ 23 — 34.

---

[1] Кошыць Аляксандр Антонавіч (1875 — 1944) — украінскі харавы дырыжор і кампазітар. У 1919 годзе выехаў за мяжу. Памёр у Канадзе.

# РАСКАЖУ ПРА ЮРКУ ХАХОЛКУ

Апошнім часам не толькі ў нашай эміграцыйнай прэсе, але таксама ў тыднёвіках, месячніках, літаратурна-мастацкіх часопісах з Беларусі больш і больш успамінаецца пра выдатных людзей сённяшняй эміграцыі: архітэктараў, паэтаў, пісьменнікаў, прафесараў-навукоўцаў, якія сваім талентам зрабілі шмат карыснага для дзяржавы, у якой яны апынуліся. Заўсёды прыемна чытаць, што, нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды, жывучы на чужыне, сярод чужых, мы, беларусы, нечага дасягнулі. Але апроч вышэй упамянутых сярод нас ёсць людзі, якія таксама зрабілі шмат і заслугоўваюць некалькі радкоў у нашай прэсе.

Адным з прыкладаў тут можна ўзяць спорт. Спартсменаў у нас не бракавала, але пакуль што аб іх ні слова. Хіба няма лепшага часу, каб успомніць сёння пра нашага выдатнага і вядомага ў замежжы спартсмена Юрку Хахолку, якому толькі што споўнілася 65 год.

Пасля ваеннай завірухі Юрка Хахолка (або, як мы называем яго, Жорж), як і шмат іншых, апынуўся ў так званым пераходным лагеры (ДП) у Ватэнштэце (Нямеччына). Ватэнштэт і да сённяшняга дня называецца "беларускай вёскай", дзе і надалей прышчаплялася любоў да сваёй беларускай мовы і свайго роднага краю. Тут мы пабудавалі беларускую школу, гімназію, царкву і касцёл. Пабудавалі сваімі рукамі грамадскі клуб, дзе наладжваліся пастаноўкі і імпрэзы, фізкультурныя заняткі.

Тут якраз Юрка і вызначыўся сваёй выдатнай здольнасцю да спорту розных відаў. Але асобай яго любоўю быў бокс і валейбол. Ён не раз праходзіў 6 раундаў з прафесіяналамі такой вагі, як і ён, і ні разу не апынуўся на "лапатках". У спартыўнай зале ён пачаў трэніраваць хлопцаў па валейболу, і ў нядоўгім часе нарадзілася першая беларуская валейбольная каманда "Нёман", якая раз'язджала па ўсёй Нямеччыне і пад яго кіраўніцтвам "кроіла камізэлькі" латышам, эстонцам, палякам і ўкраінцам. У спаборніцтве Нямеччыны сярод ДП "Нёман" дайшоў да фіналу з латышскай камандай. Тут упершыню "Нёман" быў пераможаны, але не без супраціўлення. Латышы выйгралі 3:2, а Юрка, ад'язджаючы, казаў: "Пачакайце год ці два, і мы адаб'ёмся". І адбіліся, але ўжо апынуўшыся ў Англіі.

Да гэтага часу ў Англіі пра валейбол ніхто не чуў і не ведаў, дык што гаварыць пра ігракоў. Дзеля гэтага Юрка ўкладае шмат працы і часу, каб з гэтым спортам іх пазнаёміць. Для кіраўнікоў горада робіць даклады і выдае лістоўкі з ілюстрацыямі валейбола. Пасля доўгіх стаpанняў яму дазваляюць праводзіць трэніроўкі ў гарадской зале. Прыходзяць вечарамі хлопцы і дзяўчаты. Пасля гадовай працы Юрка пераймае каманду гарадскога універсітэта. Пачынаюцца спаборніцтвы за дамашняе чэмпіёнства паміж студэнтамі англійскімі, шатландскімі, Паўночнай Ірландыі і Валіі. Тут наш Юрка вызначаецца асаблівай тактыкай і хуткай арыентацыяй. Дык нічога дзіўнага, што Лідскі універсітэт выйграў чэмпіёнства тры гады запар, што тут называецца "гат-трык".

А між тым рады "Нёмана" радзеюць. Людзі выязджалі ў іншыя краіны свету, жаніліся або проста старэлі. Але не наш Юрка. Ён і далей бярэ ўдзел у валейбольных спаборніцтвах ва ўкраінскай гарадской камандзе. Незадоўга пачалі стукаць да яго ў дзверы і спартсмены з польскіх каманд. У іх набліжалася валейбольнае спаборніцтва сярод палякаў, і ці не мог бы ён ім памагчы. "Чаму не", — адказаў ім Юрка. — "Толькі тут ёсць адна праблема, — зазначыў капітан польскай каманды. — Ці пан Жорж не мог бы згадзіцца гутарыць па-польску?". На што Юрка адказаў, што ў часе ігры ён не гаворыць. За яго гаворыць мяч. І сапраўды ён забіваў мяч у першай лініі. Біў і з правай рукі, і з левай. Біў і высокія падачы, і нізкія, і не раз каманда праціўніка не ведала, дзе і як ставіць абарону. Іншы раз, каб здэмаралізаваць абаронцаў, замест удару, ён кідаў мячык праз іх пальцы, і абаронцы валіліся, як снапы, губляючы раўнавагу.

Ды нічога не стаіць на месцы, не стаяць і гады. Апроч гэтага, Юрка праходзіць вялікую аперацыю на адной назе, а незадоўга і на другой. У бальніцы медсёстры былі здзіўлены, як хутка ён папраўляецца, а таксама дзівіліся, што карткі з пажаданнямі здароўя прыходзілі да яго цэлымі мяшкамі. Але ж, як прымаўка кажа, дзе коратка, там і рвецца. Юрка атрымаў мікраінфаркт, і зноў тая самая бальніца. Яшчэ больш картак з добрымі пажаданнямі.

Вярнуўшыся дамоў, ён атрымлівае паведамленне англійскай валейбольнай арганізацыі: чакаецца інтэрнацыянальны валейбольны турнір сярод жанчын, і яму, і яго жонцы высылаюць запрашэнне, як паважаным гасцям. І таксама жадаюць, каб ён, Юрка, як ганаровы госць, уручыў кубак пераможцам чэмпіянату.

Удзел бралі Англія, каманда з СССР, Куба і Канада. Апроч гэтага, яго спыталі, ці не змог бы ён памагчы ім як перакладчык, каб заапекаваўся гасцьмі з СССР. Юрка згадзіўся з ахвотай.

Паціскаючы рукі, ён пачуў ад савецкага трэнера: "Нікалай Карполь". Юрку прозвішча падалося вядомым: гэта ж не хто іншы, як трэнер каманды двухразовага чэмпіёна па валейболу на сусветнай алімпіядзе. Мікалай Карполь дабаўляе, што ён таксама беларус з Палесся. У часе перапынку Юрка запрашае Мікалая з жонкай да сябе ў госці. Гутаркі былі без канца. Наступным днём быў фінал паміж камандамі Кубы і СССР. Вечарам перад фіналам англійскі трэнер звярнуўся да Юркі з просьбай спытацца Мікалая, ці магчыма, каб англійская каманда магла прысутнічаць у часе трэніроўкі. Яны былі вельмі захоплены тактыкай, падыходам і дысцыплінай савецкіх дзяўчат. Мікалай падумаў і праз Юрку адказаў, што ў нармальных абставінах гэта было б немагчыма, бо трэніроўка звычайна адбываецца за закрытымі дзвярыма. Але паколькі англійскія дзяўчаты ўжо не бралі ўдзелу ў спаборніцтвах, ён гэтай просьбе не адмаўляе. Апроч гэтага, як жа беларус беларусу можа адмовіць. Ці англічане шмат навучыліся ці не, але гэта сустрэча застанецца ў іх на доўгія гады. Як усе і спадзяваліся, дзяўчаты з СССР выйгралі чэмпіянат, які адбыўся ў снежні мінулага года. У Юркі застанецца таксама добрая памяць аб сустрэчы з Мікалаем Карполем. Хто ведае, мо яны і яшчэ раз сустрэнуцца. А мне хочацца нашаму Юрку пажадаць доўгіх гадоў жыцця.

А. ГІЛЯРЧЫК.

Англія.



Нароўля. Вуліца Кастрычніцкая.

Фота І. КУРМАНОВІЧА.

# БЕЛАРУСЫ І ІНДЗЕЙЦЫ — НА СЦЕЖКУ СУПРАЦОЎНІЦТВА!

Шматлікасцю грамадскіх арганізацый, якія імкнуцца да кантактаў з замежжам, сёння нікога не здзівіш. Аднак, згадзіцеся, беларуска-індзейскія сувязі — з'ява даволі "нетрадыцыйная" для нашага нават перабудовачнага разумення. Між тым у Гомелі ўжо пэўны час дзейнічае Беларуска-індзейскае таварыства (БІТ), якое даслала ў рэдакцыю "Зварот да замежных суайчыннікаў у Амерыцы".

"Мы, члены Беларуска-індзейскага таварыства, звяртаемся да вас з заклікам да супрацоўніцтва, — гаворыцца на пачатку ў ім. — Набліжаецца 500- годдзе адкрыцця Амерыкі. Не ўсе згодны, што гэта было адкрыццё: кантынент ужо насялялі людзі, якія мелі свой Вялікі Свет. Цяпер жа іхнія нашчадкі крытычна ставяцца да пышных мерапрыемстваў у сувязі з юбілеем, што плануюцца ў шэрагу краін. Гісторыя сустрэчы і пяцівяковых узаемаадносін індзейцаў з еўрапейскімі народамі занадта трагічная".

Уплыў амерыканскіх індзейцаў, як лічаць аўтары звароту, адчулі ў Старым Свеце, у тым ліку і на Беларусі. І лёс нашага народа лагічна аб'ядноўвае нас з індзейцамі. Ці памятаюць нашы амерыканскія суайчыннікі, якія жывуць на зямлі тубыльцаў ад Аляскі да поўдня Аргенціны і Чылі, пра свой абавязак дапамагаць індзейцам як братам?

"Каб падрыхтаваць глебу для беларуска-індзейскага збліжэння і дружбы, неабходна вывучэнне гістарычных каранёў, інфармацыі пра індзейцаў, прамых кантактаў. Наша таварыства ўжо мае пэўны аб'ём звестак аб беларуска-індзейскіх сувязях, але для таго, каб даследаванне было паспяхова завершана і абнародавана ў 1992 годзе, неабходна ваша, замежных суайчыннікаў, садзейнічанне.

Будзем удзячны кожнаму, хто адгукнецца на гэты зварот, паведаміць любыя факты і ацэнкі, прышле матэрыялы, якія адлюстроўваюць гісторыю і сённяшні стан беларуска-індзейскіх кантактаў, уключаючы асабістыя назіранні і меркаванні.

**Наш адрас: БССР, 246049, г. Гомель, а/с 114, Беларуска-індзейскае таварыства".**

**По дaручэнню Савета таварыства зварот падпісаў Алесь СІМАКОЎ.**

# САМ ПЕРАЖЫЎ

Паважаная рэдакцыйная калегія "Голасу Радзімы"!

Найперш хачу вам падзякаваць за газету "Голас Радзімы", якую вельмі люблю чытаць. Многа цікавага і карыснага напісана ў ёй пра нашыя беларускія справы і нашае жыццё як на Беларусі, так і за яе межамі, за акіянамі. Яшчэ раз вам шчыра дзякую за такую духоўную пажыву.

Цяпер хацеў бы вам выказаць свае думкі пра артыкул "Службу служыць на роднай мове", што напісаны С. Шчэрбам і змешчаны ў № 26 ад 27 чэрвеня г. г. у "Голасе Радзімы". Я С. Шчэрбы не ведаю і таксама не ведаю, з якога раёна ён паходзіць. Але я поўнасцю згодзен з ім наконт вуніяцтва. С. Шчэрба піша, што не верыць вуніятам, і я ім не веру, бо перажыў сам той час, калі палякі насаджвалі вуніятаў у Заходняй Беларусі і перакручвалі нашу веру, атуманьвалі нашых людзей, пераважна ў школах. Я помню, калі ў Нясвіжы ў сямікласоўцы была адна гадзіна на тыдзень — рэлігійная лекцыя, каторую выкладаў сам бацюшка. У 1933 годзе бацюшку забаранілі пераступаць парог школы, а на яго месца прывезлі якогасьці вуніята. Ён пачаў на польскай мове выкладаць рэлігію. Царкоўнаславянскай альбо роднай беларускай мовы мы больш не чулі. Мы, праваслаўныя, былі супраць гэтага і запратэставалі. Тады нам сказалі, што бацюшка не мае часу па школах цягацца і навучаць на рускай мове (беларускую мову палякі не прызнавалі). Нам казалі: "Гэта тутэйшая вясковая мова, на якой размаўляюць адны невукі. Толькі польская — гэта харошая і далікатная мова, і мы ўсе панове і шляхта, а вы цёмныя мужыкі з вёсак". Вось я так запомніў на ўсё жыццё палякаў і вуніятаў.

Да 1932 года была ў Вайнілавічах беларуская лекцыя на адну гадзіну ў тыдзень, але яе таксама закрылі, а потым узяліся за цэрквы: Ватыкан пачаў насылаць гэтых непатрэбных паноў, каторыя нібы былі нашыя прыяцелі, а на самай справе — польскія ватыканскія агітатары. Хачу вам сказаць, што я не ёсць супраць католікаў, не супраць каталіцкай веры. Кожны чалавек добраахвотна верыць, у што ён хоча, гэта яго прыватная справа. Але не накідаць чужую веру, прымушваць сілаю пераходзіць у яе, гэта значыць, рабіць гвалт над народам. Дык вось вуніяты гэтым і займаліся перад вайной і сягоння надалей імкнуцца да гэтага. Так што я поўнасцю згодны з С. Шчэрбам, што нашу святую літургію ў славянскай мове "ліквідуюць нашы вуніяты для падтрымання свае палітыкі польска-ватыканскага ўхілу". Нам гэта здрадлівая польска - вуніяцкая прапаганда не патрэбна.

Хай жыве Беларусь, наша вера і нашая родная любімая мова!

Міхал КАПЫТКА.

Новая Зеландыя.

# ЯК СПЫТАЮЦЦА НАС...

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

40 тысяч гадоў назад. Спачатку былі заселены толькі некаторыя мясцовасці на поўдні, якія знаходзяцца ў басейнах рэк Прыпяць, Ясельда, Сож. Тут жылі людзі і ў познім старажытнакаменным веку (прыкладна 40—10 тысяч гадоў таму назад). Асабліва багатыя і каштоўныя матэрыялы пра людзей таго часу знойдзены на стаянках каля паселішчаў Юравічы і Бярдыж. У канцы старажытнакаменнага веку былі заселены вярхоўі Нёмана. На поўначы сучаснай Беларусі людзі тады яшчэ не жылі. У гэтай частцы нашага роднага краю людзі пасяліліся толькі ў сярэднім каменным веку (прыкладна 9—7 тысяч гадоў таму назад). Першыя насельнікі займаліся паляваннем, збіральніцтвам, рыбалоўствам. У наступны перыяд каменнага веку (прыкладна 6—5 тысяч гадоў назад), які называецца новым каменным векам, у жыхароў нашага краю з'явілася ганчарства, якое мела адрозненні ў Папрыпяцці, Панямонні, Падзвінні і Падняпроўі. На якіх мовах размаўлялі людзі, што жылі на тэрыторыі нашага краю ў той час? Што датычыцца мовы насельнікаў нашага краю на працягу большай часткі каменнага веку, то адказаць на гэтае пытанне пакуль што немагчыма. Сляды гэтых моў яшчэ не выяўлены. На сучасным этапе развіцця навукі можна толькі зрабіць высновы пра мову некаторых груп жыхароў у канцы новага каменнага веку (прыкладна 5 тысяч гадоў таму назад). На поўначы (у Паазер'і) яны размаўлялі на мове, якая адносілася да так званай уральскай сям'і, як фіна-ўгорскай галіны, г. зн. да фінскіх моў. Аб гэтым сведчаць назвы некаторых рэчак і азёраў, такія, напрыклад, як Дзвіна, Свір, Мардва, што знаходзяцца ў гэтых мясцовасцях. У знешнім, фізічным абліччы людзей таго часу ў Паазер'і, у пераважна еўрапеоідным тыпе, былі таксама некаторыя рысы мангалоіднага тыпу (напрыклад, больш шырокі нос), характэрныя для супольнай уральскай сям'і, у тым ліку фінскіх. У позняга неалітычнага насельніцтва Паазер'я, як і ў суседніх фінскіх супольнасцей, былі тыя ж самыя гаспадарчыя заняткі (паляванне, рыбалоўства, збіральніцтва), такая ж кераміка. У паўднёва-заходняй частцы нашага краю, менавіта ў вярхоўях Прыпяці, басейне Ясельды, у познім новым каменным веку (неаліце) людзі, мабыць, размаўлялі на мове, якая адносілася да індаеўрапейскай сям'і, магчыма яе славянскай ці балцкай галіны. Яны мелі яскрава акрэсленае еўрапеоіднае фізічнае аблічча. Старажытнейшыя назвы рэчак і азёраў гэтых мясцовасцей з'яўляюцца індаеўрапейскімі. А самае галоўнае, позненеалітычныя жыхары паўднёва-заходняй часткі нашага краю займаліся ўжо земляробствам і жывёлагадоўляй, якія ў той час былі характэрны для людзей, што размаўлялі на індаеўрапейскіх мовах і жылі таксама на поўдні ад нашага краю — на Валыні, у Падоллі і іншых землях.

У эпоху ранняга металу — бронзавым і раннім жалезным вяках — прыкладна з канца 3 тысячагоддзя да нашай эры і да сярэдзіны 1 тысячагоддзя нашай эры, галоўным чынам, ужо ў раннім бронзавым веку (прыкладна з канца 3 тысячагоддзя да нашай эры да сярэдзіны 2 тысячагоддзя да нашай эры) індаеўрапейскае насельніцтва шырока рассялілася на тэрыторыі нашага краю як у паўднёвых яе частках, так і ў паўночных, паступова асімілявала ранейшае неіндаеўрапейскае, у тым ліку і фінамоўнае, якое жыло ў Паазер'і. Мясцовае насельніцтва ўспрыняло мову і культуру новых плямёнаў, перадаўшы ім у асобных мясцовасцях назвы рэчак і азёраў, у прыватнасці, на поўначы ўжо ўпамянутыя назвы Дзвіна, Свір, Мардва, а таксама назвы некаторых рыбалоўных прылад, напрыклад, невад і асобныя рысы свайго антрапалагічнага тыпу, у прыватнасці, у Паазер'і — такую рысу, як больш шырокі нос. Якія групы індаеўрапейцаў жылі на тэрыторыі нашага роднага краю ў той далёкі час? Адказаць на гэтае пытанне дапамагаюць самыя старажытныя індаеўрапейскія назвы рэчак і азёраў. На большай частцы тэрыторыі нашага краю, асабліва на поўначы і ў цэнтры сучаснай Беларусі, старэйшымі індаеўрапейскімі назвамі з'яўляюцца балцкія, напрыклад, рэчка Мядзелька і возера Мядзель (ад балцкага medis — дрэва), рэчкі Уса (балцк. uosis — ясень), Клёва (балцк. klevas — клён), Ашмянка (балцк. akmenas — камень), Ула (балцк. ohla — дробны камень), Рэста (балцк. riekstis — арэх) і інш. На поўдзень ад Прыпяці большасць старажытнейшых індаеўрапейскіх назваў рэчак і азёраў — славянскія, напрыклад, назва рэчкі Стыр. Па старэйшых індаеўрапейскіх назвах рэчак і азёраў можна меркаваць, што на большай частцы нашага роднага краю ў эпоху ранняга металу жылі балты, а на самым поўдні (дакладней, паўднёвым захадзе) асобныя групы людзей па мове былі славянамі.

Славяне шырока рассяляліся на тэрыторыі нашага роднага краю ў больш позні час — у раннім сярэднявеччы, якім лічаць 6—10 стагоддзі нашай эры. У час рассялення яны змешваліся з мясцовым балцкім насельніцтвам, асімілявалі яго і кансалідаваліся з ім у новыя, ужо ўсходнеславянскія супольнасці, якія атрымалі назвы па месцы свайго фарміравання. Так узніклі цяпер шырока выдомыя дрыгавічы, радзімічы і крывічы. Гэтыя супольнасці не былі чыстымі славянамі. Трэба яшчэ раз падкрэсліць, што яны сфарміраваліся ў выніку змешвання славянаў і балтаў, г. зн. мелі балцкую падаснову, так званы балцкі субстрат.

Дрыгавічы першапачаткова займалі значную частку Папрыпяцця. Паўднёвая мяжа дрыгавічоў праходзіла за Прыпяццю на поўдзень ад яе. А суседніх драўлян, дрыгавічоў аддзялялі балоцістыя мясцовасці. Потым дрыгавічы прасунуліся на поўнач, апынуліся ў вярхоўях Нёмана. Асобныя групы дрыгавічоў, магчыма, рассяліліся і на больш паўночную тэрыторыю. Мова дрыгавічоў была славянскай. Славянскімі па паходжанню былі і такія элементы іх культуры, як буйныя металічныя пацеркі, пакрытыя зерню, пярсцёнкападобныя скроневыя колцы. Славянскімі былі сярпы, нажы, кераміка. Славянскім з'яўляўся таксама звычай класці памёршага на вогнішча галавой на захад. Да элементаў балцкага паходжання ў культуры дрыгавічоў адносіліся спіральныя пярсцёнкі, змяінагаловыя бранзалеты, зорчатыя спражкі. У некаторых мясцовасцях дрыгавічы хавалі памёршых па характэрнаму раней для балтаў звычаю — у драўляных дамавінах (клалі ў іх памёршых галавой на ўсход). Аб змешаным славяна-балцкім паходжанні дрыгавічоў, верагодна, сведчыць і сама назва гэтай супольнасці. Корань гэтай назвы, магчыма, балцкі. У літоўскай мове шмат слоў з такім коранем (drėgnas — сыры, вільготны, drėgme — сырасць, вільготнасць і інш.). Словы з гэтым коранем адлюстроўваюць адну з асаблівасцей мясцовасці, у якой жыла вялікая група дрыгавічоў, менавіта вільготнасць, забалочанасць зямель у парэччы Прыпяці. На думку вядомага савецкага лінгвіста Ю. Хабургаева, падобна назве суседняй балцкай супольнасці (lietuva) назва балцкай супольнасці ў парэччы Прыпяці мела форму dreguva. Пасля змешвання славянаў з балтамі і асіміляцыі апошніх у назве новай супольнасці, якая сфарміравалася, захавалася ранейшая балцкая аснова, да якой было дададзена славянскае — "ічы". Так узнікла новая назва — дрыгавічы. Яна з'яўляецца славянізаванай формай ранейшай балцкай назвы, што абазначала групу балцкага насельніцтва па асаблівасцях тэрыторыі, на якой яно жыло да шырокага рассялення славянаў.

Такога ж змешанага славяна-балцкага паходжання былі і радзімічы, якія сфарміраваліся ў Пасожжы і займалі яго і ў пазнейшы час. Мова радзімічаў была славянскай. Славянскімі па паходжанню ў культуры радзімічаў былі таксама сяміпрамянёвыя колцы, бразготкі, кераміка. Памёршых па славянскаму звычаю ў пахаваннях радзімічаў клалі пераважна галавой на захад. Разам з тым у культуры радзімічаў былі і элементы балцкага паходжання. Да іх адносіліся бранзалеты са змяінымі галовамі на канцах, бронзавыя спіралькі, касцяныя прывескі ў выглядзе качак, зоркападобныя спражкі. У некаторых мясцовасцях памёршых у пахаваннях радзімічаў клалі па звычаю балцкага паходжання галавой на ўсход. Назва радзімічаў, верагодна, таксама змешанага славяна-балцкага паходжання. Самымі блізкімі да гэтай назвы з'яўляюцца балцкія (літоўскія) словы radimas (знаходжанне), radimviete (месцазнаходжанне). У славянскай і балцкай назвах агульная аснова (радзім), адрозніваюцца толькі канчаткі. Назва ўсходнеславянскай супольнасці заканчваецца на славянскае — "ічы".

Змешанага славяна-балцкага паходжання была і самая вялікая ўсходнеславянская супольнасць таго часу — крывічы, што сфарміравалася на тэрыторыі, размешчанай на поўначы ад дрыгавічоў і радзімічаў. Крывічы рассяліліся вельмі шырока. Паўночная мяжа крывічоў дасягнула вярхоўяў Волгі. Арэал іх рассялення, апрача Падзвіння, уключаў таксама і верхняе Падняпроўе. Як адзначаецца ў старажытным летапісе, "кривичи иже седять на верх Волги, и на верх Двины, и на верх Днепра". Мова крывічоў была славянскай. Славянскімі па паходжанню элементамі культуры крывічоў з'яўляліся бранзалетападобныя скроневыя колцы з завязанымі канцамі, крывіцкія бранзалеты, кераміка, а таксама звычай у многіх пахаваннях класці памёршых галавой на захад. Адначасова ў культуры крывічоў ёсць і элементы балцкага паходжання. Да іх адносіліся бранзалеты са змяінымі галовамі, шыйныя грыўны балцкага тыпу, галаўны вянок і інш. Змешанага славяна-балцкага паходжання, магчыма, і сама назва гэтай супольнасці. Верагодна, яно адлюстроўвае своеасаблівасць той значнай часткі іх тэрыторыі на Міншчыне і Смаленшчыне, дзе шмат узгоркаў і мясцовасць як бы крывая. Высокія мясціны чаргуюцца з больш нізкімі. Такі характар мясцовасці асабліва тыповы для поўдня і ўсходу іх тэрыторыі. У адрозненне ад першапачатковай балоцістай мясцовасці дрыгавічоў яе маглі называць крывой. Назва крывічоў, магчыма, паходзіць ад слоў, якія абазначаюць мясцовасць з узгоркамі. Шмат слоў са значэннем крывізны ёсць не толькі ў славянскіх, але і ў балцкіх мовах, напрыклад, літоўскай (kreivas — крывы, kreivinti — крывіць, kreivis, kreivimas — крывізна, kreivomis — коса, kreivuzas — крывая рэч). Паколькі першапачаткова на тэрыторыі крывічоў жылі не славяне, а балты, то можна меркаваць, што тэрмінам з першапачатковай асновай крыу (kreiv) тут называлі балцкае насельніцтва. Лінгвіст Ю. Хабургаеў лічыць, што гэты тэрмін першапачаткова меў форму kreuva, krieva, а пасля змешвання славянаў з балтамі і фарміравання новай супольнасці яна некалькі змянілася, але захавала ранейшую аснову, да якой было дададзена славянскае — "ічы". Так з'явілася назва адной з усходнеславянскіх супольнасцей — крывічы. У балцкіх мовах пасля гэтага па-ранейшаму захавалася некалькі змененая балцкая форма, якой балты называлі славянскіх суседзяў на ўсходзе — krievs, krievai. Да цяперашняга часу яна захавалася ў латышскай мове для абазначэння велікарусаў (рускіх) — krievs — рускі, Krievija — Расія.

Вельмі важна для правільнага разумення крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў, а таксама далейшай гісторыі нашага роднага краю вызначыць узровень развіцця і тып гэтых супольнасцей. Раней нашай навукай заніжаўся ўзровень развіцця крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў. Іх лічылі плямёнамі ці саюзамі плямёнаў і адносілі да рода-племяннай стадыі чалавечага грамадства. Мабыць, гэта не так. К IX—X стагоддзям, калі сфарміраваліся гэтыя супольнасці, яны, асабліва крывічы і дрыгавічы, ужо дасягнулі больш высокай стадыі развіцця, падняліся на ступень раннекласавага грамадства і стварылі першапачатковыя дзяржавы, якія можна назваць протадзяржавамі. Для такой высновы ёсць шмат доказаў. У крывічоў і дрыгавічоў у гэты час з'явіліся такія прылады працы, якія мелі жалезныя наканечнікі. У гэты ж час у крывічоў і дрыгавічоў пашырыліся сярпы новага тыпу, якія вядуць сваё паходжанне ад аналагічных рымскіх прылад, былі значна ўдасканалены кавальскае і ганчарнае рамёствы. У кавальскім промысле з'яўляюцца і паступова ўдасканальваюцца сырадутныя печы. У ганчарстве пачаў выкарыстоўвацца ганчарны круг і спецыяльныя печы для абпальвання ганчарных вырабаў. Апрацоўка жалеза і гліны паступова становіцца прафесійным відам дзейнасці, асобным заняткам. Рамёствы пачынаюць аддзяляцца ад земляробства. Гэта стварае спрыяльныя ўмовы для ўзнікнення пастаяннага гандлю. У IX—X стагоддзях у крывічоў і дрыгавічоў з'яўляецца ўстойлівае грашовае абарачэнне. На тэрыторыі крывічоў, у прыватнасці, на Полаччыне, каля вёскі Козянкі, знойдзены клад гэтага часу, у якім было звыш 7 500 манет. У выніку такіх важных змен у гаспадарчых занятках у крывічоў і дрыгавічоў узнікаюць першапачатковыя гарады (протагарады). На тэрыторыі крывічоў у IX стагоддзі ўзнікае Полацк; у X — Віцебск, а на тэрыторыі дрыгавічоў у X стагоддзі з'яўляецца першапачатковы горад Тураў. У гэты час змяняецца і сацыяльны склад насельніцтва. Яно падзяляецца на знаць (князёў) і астатніх жыхароў. Першыя адрозніваліся ад другіх сваімі функцыямі і становішчам, якое адлюстравана ў пахаваннях. На Полаччыне, у адным з курганоў каля вёскі Боркі, знойдзена каля 2 000 упрыгажэнняў. У крывічоў і дрыгавічоў у адрозненне ад папярэдніх балцкіх супольнасцей усталявалася другая сістэма кіравання. Рода-племяннoе кіраванне змянілася палітычным. Узніклі першапачатковыя дзяржавы, якія называліся "княжэннямі". У полацкіх крывічоў і дрыгавічоў кіраванне ўзначальвалі князі, якія атрымлівалі гэтыя пасады па спадчыне. Старажытныя пісьмовыя крыніцы называюць нават імёны такіх князёў (Рогвалад у полацкіх крывічоў, Тур — у дрыгавічоў). У княжэннях меўся першапачатковы дзяржаўны апарат для збірання дані. Усе гэтыя факты сведчаць аб тым, што памылкова называць крывічоў і дрыгавічоў, а верагодна, і радзімічаў плямёнамі, паколькі сярод іх ужо не было сацыяльнай роўнасці, аднолькавага сацыяльнага становішча ўсіх членаў супольнасці. У крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў знікла рода-племяннoе дзяленне і рода-племяннoе кіраванне. Памылкова называць гэтыя супольнасці і саюзамі плямёнаў, таму што, калі не было плямёнаў, то не існавала асновы, падставы для іх саюза. Саюзамі плямёнаў звычайна называюць, асабліва ў этнаграфічнай літаратуры, часовыя аб'яднанні, якія заснаваны на дагаворы, што мае пэўны тэрмін дзеяння. У саюзы могуць аб'ядноўвацца і няроднасныя плямёны, якія адрозніваюцца сваёй культурай, мовай. Такім чынам, саюзы плямёнаў — гэта часовыя іх аб'яднанні, якія вызначаюць пэўныя адносіны паміж плямёнамі. Што датычыцца крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, то ў адрозненне ад такіх саюзаў, яны былі перш за ўсё культурнымі супольнасцямі, г. зн. устойлівымі аб'яднаннямі, якія ўзніклі не на аснове дагавора, а сфарміраваліся стыхійна. Яны не плямёны і не саюзы плямёнаў, а першапачатковыя народнасці (протанароднасці) пачатковага этапу раннекласавага грамадства. Археолаг П. Траццякоў называў іх "народцамі", першапачатковымі народнасцямі.

Такім чынам, яшчэ ў старажытны час і ранняе сярэднявечча, гэта значыць яшчэ да таго часу, калі наш родны край стаў Руссю, яго насельніцтва прайшло вялікі шлях ад дзікасці да пачатку цывілізацыі, ад першабытных плямёнаў да першапачатковых народнасцей, ад першабытнай сістэмы кіравання да першапачатковай дзяржавы.

## УЗНІКНЕННЕ РУСІ

Другі, вельмі важны перыяд гісторыі нашага роднага краю ахоплівае амаль усю першую палову другога тысячагоддзя новай эры. У гэты перыяд яго насельніцтва становіцца часткай новага, вялікага, усходнеславянскага этнасу (народа), а яго землі адпаведна сталі адметнымі часткамі тэрыторыі гэтага этнасу, якая атрымала назву Русь, а сам вялікі агульнаўсходнеславянскі этнас, што займаў гэтую тэрыторыю, пачаў звацца рускім, яго людзі — русамі, русічамі, русінамі, рускімі. Гэты новы агульнаўсходнеславянскі этнас і яго тэрыторыя пачалі фарміравацца за межамі нашага роднага краю, у мясцовасцях, размешчаных на поўдзень і на поўнач ад яго — у Сярэднім Падняпроўі і Паволхаўі. Зараджэнне новага народа ў гэтых дзвюх аддаленых адна ад другой мясцовасцях адбывалася адначасова — у IX—X стагоддзях. Тут у гэты час былі спрыяльныя ўмовы для больш хуткага развіцця эканомікі, сацыяльных адносін, культуры. Знешнія ўмовы жыцця насельніцтва гэтых мясцовасцей, менавіта неабходнасць аб'яднання ў барацьбе супраць знешніх ворагаў (на поўдні — хазараў, печанегаў, полаўцаў, на поўначы — варагаў) таксама садзейнічалі згуртаванню першасных усходнеславянскіх супольнасцей у новы этнас (народ). Першымі ў новы этнас кансалідаваліся паляне і заходнія севяране ў Сярэднім Падняпроўі, славяне і паўночныя (пскоўскія) крывічы ў Паволхаўі. Паляне і заходнія севяране жылі ў лесастэпавай зоне, якая ў той час была спрыяльнай для развіцця земляробства. Тут амаль не трэба было расчышчаць зямлю ад лесу. Тут раней з'явіліся больш прадукцыйныя земляробчыя прылады працы, выкарыстоўвалі больш моцную цяглавую сілу — валоў.

Міхась ПІЛІПЕНКА.

## НА РАДЗІМЕ ІГНАТА БУЙНІЦКАГА

# ПЯВУЧАЯ ВЁСКА ПРАЗАРОКІ

Свет цэлы цешыўся ігрою —
На сцэну выйшлі крывічы.
Спрожкай, чуйнай
цішынёю
Напоўнены Палевачы.
Неўтаймаваныя аблокі
Над краем вечны рэй
вядуць...
Сягоння людзі ў Празарокі
Са свету едуць і ідуць.

Алесь ЖЫГУНОЎ.

І сапраўды, нейкім чынам атрымліваецца, што апошнім часам у Празарокі ўсё часцей і часцей наведваюцца госці. Едуць яны зблізку, з акаляючых вёсак, раёнаў, едуць і здалёк, са сталіцы, з абласнога цэнтра Віцебска, едуць невялічкімі групкамі і вялікімі дэлегацыямі, каб пакланіцца бацьку беларускага тэатра — Ігнату Буйніцкаму.

Пашанцавала Празарокам. Іменна тут, у ваколіцах Палевачоў, нарадзіўся Ігнат Буйніцкі, тут жыў, збіраў па кроплях скарбы народнай творчасці, арганізаваў прафесійную тэатральную трупу. Вельмі любіў Ігнат Цярэнцьевіч сваю радзіму, клапаціўся пра сваіх землякоў, хацеў унесці ў іх жыццё нешта цікавае, новае. Аб гэтым ён піша ў артыкулах у газету "Наша ніва". Так, у № 4 за 1911 год, у рубрыцы "З усіх старон", Ігнат Буйніцкі піша пра кірмаш у Празароках. Справа ў тым, што па панядзелках у нашай вёсцы праходзіў кірмаш. Шумна і весела было тут з раніцы, але яшчэ "весялей" пад вечар, калі паліцэйскія разбіралі бойкі, п'яныя дэбошы. У канцы сваёй заметкі Ігнат Цярэнцьевіч заўважае: "... менш пілі б, менш біліся б, ды менш судам было б работы, а ў турмах — больш пустога месца". Дбаючы пра сваіх аднавяскоўцаў, ён адчыніў камерцыйную краму, дзе сяляне маглі набыць тое-сёе для сябе і сваёй гаспадаркі.

І сёння добрым словам успамінаюць яго празароцкія старажылы, якія любяць прыйсці ў школу, расказаць гасцям пра мінулае, паспяваць песні. І неяк сам па сабе арганізаваўся фальклорны калектыў вучняў і старэйшын вёскі. Робіць ён шмат спраў. Многа добрых слоў можна сказаць пра Часлава Хамёнка, Вацлаву Фурс, Эмілію Сіняўскую, Марыю Беззубёнак. Вялікае жыццё пражылі гэтыя людзі, складаныя ў іх лёсы, яны шмат адпрацавалі, вырасцілі цудоўных дзяцей. Пара б ужо і на адпачынак, але любяць яны пасядзець з людзьмі, паспяваць, патанцаваць. Глядзіш на іх — і здаецца, што дрэннага нічога навокал няма і быць не можа.

А вось Ванда Гэрэхун, Ірына Вяль і Ядвіга Шаўко яшчэ прадаўжаюць працаваць, хоць і на пенсіі. Яны вучаць нас, маладзейшых, любіць роднае слова, песню, танец, ад іх мы пачулі і запісалі многія абрады, легенды, паданні нашай мясцовасці. Такім чынам дзейнічае малодшая групка, у якую ўваходзяць вучні. Шмат сілы, энергіі аддалі справе музея сёлетнія выпускніцы Наташа Дударонак і Марына Гэрэхун. Шэсць гадоў яны адпрацавалі экскурсаводамі ў музеі.

Многа добрых слоў можна сказаць пра Анечку Шаўко і Валодзю Крыўко, нашых цудоўных дэкламатараў, збіральнікаў фальклору. Света Шастак, Толік Рачынскі, Ніна Філіпчык, Іна Булак умеюць і любяць танцаваць. Цудоўна ў іх атрымліваецца і "Кракавяк", і "Андрэй", і "На рэчаньку", і "Месяц". А вось Віця Піваварчык, Андрэй Пупковіч, Саша Рубніковіч і Косця Альшэўскі папаўняюць музей матэрыяльнымі рэчамі. Збанкі, корабы, качалкі, праснiцы, верацёны, бойкі, дзеравяшкі — гэта ўсё прынесена ў нашу "беларускую хатку", якая суседнічае з музеем. Папаўняецца новымі матэрыяламі і ён. Артыкулы з "Нашай нівы" Ігната Буйніцкага пра дзейнасць яго трупы, "Хроніка Празароцкага касцёла... 1853 года", матэрыялы па гісторыі роднай вёскі. Гэта тое новае, што мы знайшлі цяпер. Акрамя таго, у музеі захоўваюцца ўспаміны старажылаў; якія самі бачылі і памятаюць Ігната Буйніцкага, фотаздымкі некаторых удзельнікаў трупы, пісьмы, камізэлька, у якой танцавала дачка Буйніцкага Гэля. Сёння вёска наша працуе, а ў вольны час адпачывае з вялікім задавальненнем і ўменнем. Усім помніцца свята "Грай, гармонік", на якім спаборнічалі дванаццаць гарманістаў. Часам не вытрымлівалі нашы жанчыны, выбягалі на сцэну і спявалі прыпеўкі. З "Настаўніцкімі вячоркамі" перад аднасяльчанамі і гасцямі выступаюць настаўнікі Празароцкай школы. Іх гумарыстычная праграма па густу і маладым, і старэйшым.

У мінулым Празарокі — мястэчка. Тут размяшчалася валаснае праўленне. У 1905 годзе ў Празароцкай валасці зарэгістравана 255 вёсак, фальваркаў і памесцяў. У іх пражывала 9 353 жыхары.

Зараз у вёсцы многа будуюць. Моладзь застаецца на радзіме. І ад гэтага радасна. Радасна таму, што нараджаюцца дзеці, ідуць у школу, мацуюць свае карані ў родных мясцінах.

В. ГІНЬКО.



# ШТО НЕ ЗРАБІЎ ЧАС...



Яшчэ і сёння гэты будынак уражвае былой прыгажосцю і веліччу. Амаль 300 гадоў назад узвялі яго ў вёсцы Юравічы Калінкавіцкага раёна. Быў тут манастыр, пазней пад адным дахам мірна суседнічалі дзве веры: каталіцкая і праваслаўная. Богаслужэнні праводзіліся аж да пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Ваеннае ліхалецце абмінула помнік архітэктуры XVIII стагоддзя. Ні адзін снарад не трапіў у будынак. Разбурылі яго чалавечая бездухоўнасць і вандалізм. Пасля вайны тут знаходзілі сабе прытулак і дзіцячы дом, і школа для разумова адсталых дзяцей. Але замест таго, каб падтрымліваць пабудовы ў парадку, кіраўнік кожнай установы (мусіць даказваючы свой атэізм) уносіў лепту ў яе разбурэнне. Мясцовыя жыхары завяршылі чорную справу, разбіраючы будынак на ўласныя патрэбы. Цяпер спахапіліся: зберагчы б былую прыгажосць, вярнуць старадаўнім пабудовам новае жыццё. І не страчваюць надзеі, што знойдуцца неабыякавыя да лёсу помніка архітэктуры людзі.

НА ЗДЫМКАХ: так выглядае будынак XVIII стагоддзя ў Юравічах; келлі, што былі жылымі памяшканнямі, цяпер поўнасцю разрабаваны.

Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.

# МАСТАК З АШМЯН

Безумоўна, у малым горадзе і творчых людзей менш, чым у сталічным. Але ж і ў нашых невялікіх Ашмянах ёсць здольныя творцы. Адзін з іх — 21-гадовы Сцяпан Аўсюкевіч. Ён паспяхова скончыў Мірскае мастацкае вучылішча, што ў Карэліцкім раёне, і зараз працуе мастаком на Ашмянскім дрожджавым заводзе.

У вольны час Сцяпан Аўсюкевіч піша пейзажы, нацюрморты. Асабліва яму ўдаюцца карціны, у якіх ён адлюстроўвае родныя, блізкія яго сэрцу беларускія краявіды. Вельмі прывабна выглядаюць аднайменныя ашмянскім вёскам пейзажы: "Павяжы", "Замасцяны", "Асінаўка", "Акмянеі", "Будзёнаўка". Не менш цікавыя карціны-пейзажы "Дарога на Гальшаны", "Вішнеўскае возера". Гэтыя і іншыя творы — усяго 37 работ — можна было паглядзець у Ашмянскім краязнаўчым музеі імя Ф. Багушэвіча, дзе была наладжана першая персанальная выстава Сцяпана Аўсюкевіча.

Аднак ён не толькі піша карціны, але і цікавіцца прыкладным мастацтвам: робіць барэльефы, гарэльефы, лепку з гіпсу і пласціліну, займаецца разьбой па дрэву.

Магчыма, пачынаючага мастака чакае вялікая будучыня.

А. СЯРГЕЙЧЫК.

## З БЕЛАРУСКАГА НАДДЗВІННЯ Ў ЛАТВІІ

Дарагая рэдакцыя!

Вырашыў прапанаваць Вам для друку некалькі сваіх вершаў.

Больш трох год па волі лёсу я жыву і працую ў Даўгаўпілсе. Працую машыністам пуцявой машыны. У 1987 годзе завочна скончыў беларускае аддзяленне філфака БДУ.

З вершамі друкуюся ў рэспубліканскім друку з 78-га года, праўда, не так часта, як хацелася б. У 83-м вялікая падборка маіх вершаў была змешчана ў "Сцяжыне" — калектыўным зборніку, які выйшаў у серыі "Першая кніга паэта". Апошнія публікацыі — ў "ЛіМе" за 22 лютага гэтага года і "Дні паэзіі-90". Быў бы рады, калі б і Вы не абышлі мяне сваёй увагай.

На тым застаюся
са шчыраю павагаю да Вас,
з пажаданнямі плёну —
збожжа і лёну —
на ніве нашай роднай культуры.

Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.

г. Даўгаўпілс.

Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

Няйначай сэрца
Такое маю,
Што гэтак блізка —
Усё прымаю.

Таму так многа
Ў ім жалю, болю,
Трывог
З гадамі
Ўсё болей, болей...

Зямля адцягне —
Калі абдыме,
Мяне
Так блізка
Да сэрца прыме!

* * *

З глыбінкі першароднай
З глыбінь душы народа,
З глыб часу
Б'е у грудзі —
Крынічка мовы роднай.

Ад роспачы зімовай,
Ад змовы злой —
Замовы,
Айчыны сэрца б'ецца —
Цяпельца роднай мовы.

***

Хадуном зямля, бывала,
Калыхала,
Калыхала,
Звар'яцела смерць спявала
І снягамі спавівала...

Ды жыццё не адпускала:
Несла, везла —
Калыхала,
Успамінамі спявала
І бінтамі спавівала...

# крынічка

Уладзімір ШАЙДАЎ

## САЛОДКІЯ ЛЕКІ

*КАЗКА*

*Жылі ў вёсцы дзед і бабка.*

*Аднаго разу іх унучак гуляў з дзецьмі на вуліцы, напіўся халоднай вады і ахрып. Сядзіць у хаце і плача.*

*Забедавала бабка, паклікала дзеда.*

*— Што рабіць? — пытаецца. — Унучак голас згубіў.*

*Дзед адразу здагадаўся, у чым прычына.*

*— Не бяда, — супакойвае. — Да пчолак прыйдзецца звярнуцца. Яны вернуць унучку голас.*

*Узяў дзед унучка за рукі і павёў у сад. Падышлі да вуллёў. Дзед і кажа:*

*— Пчолкі добрыя! У майго ўнучка горла баліць, трэба яго мёдам палячыць — голас вярнуць.*

*— Што ж унучак нарабіў, чаму галасок згубіў? — спыталіся пчолкі.*

*— Вады халоднай папіў — вось і галасок згубіў.*

*Загулі, зазвінелі пчолкі, узняліся хмаркай над садам і паляцелі хутчэй па мёд. Адны — на луг. Другія — у лес. Трэція — у поле.*

*— Прынясём, дзядуля, мядок, будзе зноў у ўнучка галасок.*

*Прыляцелі пчолкі да кветачак, закружыліся над імі ды і кажуць:*

*— Кветачкі прыгожыя, кветачкі духмяныя! Аддайце нам ваш мядок. У дзедавага ўнучка прапаў галасок. Ён мядку паспытае, горлачка балець перастане.*

*Кветачкі ласкава ўсміхнуліся і павярнулі свае галоўкі да яснага сонейка, каб пчолкам лепш былі віdаць кропелькі нектару.*

*— Бярыце, пчолкі, наш мядок, ды нясіце хутчэй у дамок. Няхай унучак п'е мядок і верне сабе галасок.*

*Цэлы дзень лёталі пчолкі, насілі мядок для Віці.*

*А пад вечар дзед зноў прывёў унучка ў сад. Падышлі да чырвонага вулля.*

*— Пчолкі добрыя, працаўніцы слаўныя, — пытае дзед, — ці гатовы мядок?*

*Вылецела з доміка пчолка і загула:*

*— Вазьмі, дзядок, лугавы мядок! Няхай да ўнучка вернецца галасок, а сам ён няхай расце прыгожы, як васілёк.*

*Падзякаваў дзед пчолкам і ўзяў слоік лугавога мёду.*

*Падышлі да зялёнага вулля.*

*— Пчолкі добрыя, працаўніцы слаўныя, — ці гатовы мядок?*

*Вылецела з доміка пчолка і загула:*

*— Вазьмі, дзядок, лясны мядок! Няхай да ўнучка вернецца галасок, а сам ён няхай вырасце моцны, як дубок.*

*Падзякаваў дзед пчолкам і ўзяў слоік ляснога мёду.*

*Падышлі да жоўтага вулля.*

*— Пчолкі добрыя, працаўніцы слаўныя, — пытае дзед, — ці гатовы мядок?*

*Вылецела з доміка пчолка і загула:*

*— Вазьмі, дзядок, палявы мядок! Няхай да ўнучка вернецца галасок, а сам ён няхай вырасце шчодры, як каласок.*

*Падзякаваў дзед пчолкам і ўзяў слоік палявога мёду. І ўнучак хацеў падзякаваць, але не змог — яшчэ голас не вярнуўся.*

*У хаце пасадзіла баба ўнучка за стол, сама побач з дзедам села. Дзед узяў драўляную лыжку, пачаў унука салодкімі лекамі частаваць: спачатку лясным мёдам, потым — палявым, а затым — лугавым.*

*З'еў хлопчык тры лыжкі мёду і адразу стаў такім, як пажадалі пчолкі. Зноў да яго вярнуўся галасок. Заўсміхаўся ён шчасліва, павесялеў адразу:*

*— Дзякуй вам, дзед і баба, дзякуй працавітым добрым пчолкам. Я зусім здаровы, у мяне нічога не баліць.*

*Усміхнуўся ў вусы дзед, засмяялася ад радасці баба. А ўнук хутчэй на вуліцу пабег.*

*І цяпер зноў гуляе з дзецьмі на вуліцы — прыгожы, як васілёк, моцны, як дубок, шчодры, як каласок.*

ГУЛЬНЯ

## БЫЛІ Ў БАЦЬКІ ТРЫ СЫНЫ

Былі ў бацькі тры сыны.
Ды ўсе трое Васілі.
Адзін коні пасе.
Другі лапці пляце.
Трэці сядзіць на камені,
Дзяржыць дудку на рэмені.
Ён іграе і гудзе,
Ажно водгалас ідзе:
— Як павесіў я дуду
На зялёным на дубу,
Дуда з дуба звалілася,
На трэсачкі разбілася.
Ах, я бедны цяпер,
Пайду пасвіць цяцер.
Я паціху падпоўз —
І цяцёрку за хвост.
Зраблю з пёрка дуду —
Заіграю, загуду.
Гэтак стану іграць —
Усіх буду пацяшаць.
Я на дудцы: гу-гу-гу —
Усе нясуць па пірагу.
Мне і татка — пірог.
Мне і матка — пірог.
Мне і братка — пірог.
І сястрыца — пірог.
Мне і дзядзька — пірог.
Мне і цётка — пірог.
І сусед — пірог.
І суседка — пірог.
Назбіраў я пірагоў
Восемдзесят карабоў.
Запрагаю я каня —
Мой і конь не вязе.
Запрагаю я вала —
Мой і вол не вязе.
Запрагаю камара —
Каля вуха званара.
Мой камар маладзец.
Пірагі мае вязець.
Без аглобляў, без дугі
Цягне камар пірагі!

Алесь КАСКО

## ХВАЛЬКО

— Калі моцна захачу,
кошку гаўкаць навучу.
А яшчэ як захачу —
пераскочу каланчу.
Захачу — і палячу,
Зоркі ў небе палічу.
— Паспрабуй жа паляцець!
— Расхацелася хацець...



Пушысцікі.



Фота У. МЯЖЭВІЧА і А. ТАЛОЧКІ.

Яўген КРАМКО

## ГРЫБНІКІ

Час для грыбніка быў пазнаваты, але пасля кароткае развагі паклікаў унучка, узялі кошыкі і пайшлі ў лес. Жнівеньская раніца яшчэ не паспела скінуць расу, і яна бурштынам зіхацела ад сонечных промняў. Мы ўвайшлі ў лес. Дрозд сваім заманлівым свістам клікаў нас, але мы не звярнулі на яго ўвагі. Маўклівыя дрэвы пасылалі доўгія цені нам пад ногі, на мох, зямлю, ядловец.

Скончыўся густы маладняк, і пачаўся ўжо ладны рэдкі хвойнік. Між гонкіх хваін сям-там бялелі бярозіны і зелянелі кучаравыя ялінкі.

— Тут грыбное месца, добра прыглядайся, — раю ўнуку, які, бачу, больш пазглядае па баках, чым на зямлю.

Праз некалькі крокаў побач з ялінкаю ганарова стаяў адзінокі прыгажун-баравік: ножка тоўстая, галоўка цёмна-карычневая.

— Паглядзі, які маладзец усміхаецца мне, — і паказаў унуку. — Зрэж ты, — прапаную.

— Не, я сам хачу знайсці, — адмаўляецца ён.

Хадзілі ў гэтым лесе з паўгадзіны. Я знайшоў яшчэ некалькі праўдзівікаў, а мой спадарожнік ніводнага.

— Чаму яны ад мяне хаваюцца? — у роспачы кажа ён.

— Не хвалюйся, лепш прыглядайся. Ідзі і думай толькі аб грыбах, тады пашанцуе.

Ідзём, і мой позірк затрымаўся: у кроку перад намі незвычайна была ўзнята парыжэлая ігліца.

— Стань, прыгледзься і слухай, — кажу ўнуку і прытрымліваю яго за плячо.

— А што я ўбачу і пачую?

— А вось што. Чую, дзесьці блізка сядзяць два брацікі-баравікі. Ім вельмі хочацца зірнуць, што робіцца ў лесе. Чую, большы кажа: "Высунь галаву, паглядзі, што там?" — "Не, ты першы. Я баюся," — шэпча меншы. — "Ну добра," — згаджаецца большы і выпроствае прыгнутую спіну.

Ігліца заварушылася, узнялася, і праз адтуліну ён убачыў сонца.

— "Ой! Як цудоўна ў нашым лесе," — шэпча ён, і ў адзін момант галоўка яго ружавее.

Меншы таксама ўзняў галаву, глянуў і прамовіў: "Тут і птушкі пяюць."

— Ты ўсё гэта чуеш? — здзіўлена спытаў унук.

— Вядома, чую, — адказваю.

— А дзе яны?

— Паглядзі вось туды, — паказаў рукою на парушаную ігліцу.

— Сапраўды тут штосьці не так, — ступіў крок і нахінуўся. Там стаялі два баравічкі, як брацікі, большы — цямнейшы, меншы — бялейшы.

— Што яны табе сказалі? — пытаю.

— Вазьмі нас з сабою, — усміхаючыся, адказвае ўнук.

СМЯШЫНКІ

***

— У вас зусім маленькая кватэра?

— А як вы здагадаліся?

— Ваш сабака махаў хвастом не з боку на бок, а ўверх і ўніз.

***

Сабраліся Калабок з Ваўком біцца. Калабок і кажа:

— Толькі давай дамовімся: па галаве не біць.

***

Каця крычыць на пяцігадовую сястрычку-гарэзу:

— Аленка, я цябе зараз прыб'ю!

— Кацечка, а дзе ж ты такі вялікі цвік знойдзеш?

***

Оля, вярнуўшыся з дзіцячага садка, крычыць сястры:

— Лена, я прывялася ўжо.

Алесь БАДАК

## ЗАЙЧАНЯТКІ

**— Дзе былі вы,**
**Зайчаняткі?**
**— Загаралі**
**Каля градкі.**
**— А пасля куды**
**Прапалі?**
**— Маме дома**
**Памагалі.**
**Мылі міскі,**
**Мылі лыжкі,**
**Акуратна склалі**
**Кніжкі.**
**— Ну а што пасля**
**Рабілі?**
**— Да мядзведзіка**
**Хадзілі.**
**Пазаўчора яму**
**Дзед**
**Падарыў**
**Веласіпед.**
**І цяпер мы**
**На палянцы**
**Разам вучымся**
**Катацца.**
**Хочаш,**
**З намі павучыся —**
**Толькі ты,**
**Глядзі,**
**Не бійся!**

ЗАГАДКІ

Бегла ліска каля лесу блізка: ні сцежкі, ні дарожкі, толькі залатыя рожкі.

**(Маланка)**

Мяне ўсе просяць, мяне ўсе чакаюць, як толькі з'яўлюся — хавацца пачынаюць.

**(Дождж)**

Ляцелі галкі, селі на палкі. Сядуць па адной — галка лішняя, сядуць па дзве — палка лішняя. Колькі было галак і колькі было палак?

**(Тры палкі і чатыры галкі)**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
220600, МІНСК,
ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97,
33-02-80, 33-03-15, 33-16-56,
33-07-82.

Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку"
Індэкс 63854. Заказ № 1310.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12